*Учора ў Віцебску адбылося ўрачыстае адкрыццё Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар» (чытайце на 5-й стар).*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 54 (4409)**

12 ліпеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АФІЦЫЙНА

## Урад гатовы завяршыць перамовы па далучэнні Беларусі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі ў першай палове 2020 года



Урад гатовы завяршыць перагаворы па далучэнні Беларусі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі да 12-й міністэрскай канферэнцыі СГА ў чэрвені 2020 года. Аб гэтым заявіў учора першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Аляксандр Турчын на сустрэчы з генеральным дырэктарам СГА Раберту Азеведу ў Жэневе.

**На фота: Раберту Азеведу і Аляксандр Турчын.**

(Фота БЕЛТА.)

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Вышэйшая адукацыя – справа дарагая!

*Некаторыя беларускія ВНУ ўжо размясцілі на сваіх сайтах інфармацыю пра кошты навучання ў 2019/2020 навучальным годзе.*

*Лічбы не для слабанервовых.*

Так, у БНТУ кошт навучання на першым курсе вагаецца ў залежнасці ад спецыяльнасці ад 3380 да 3605 рублёў за год.

У БДЭУ незалежна ад спецыяльнасці першакурснікам давядзецца заплаціць 2564 рублі, студэнтам другіх-чацвёртых курсаў – 2463, пяцікурснікам – 1092 рублі за год.

У Акадэміі кіравання "цэннік" адзін на ўсіх студэнтаў – 3200 рублёў.

У БДПУ кошт на спецыяльнасцях з вывучэннем замежнай мовы вар'іруецца ад 1966 рублёў для выпускнога курса да 2666 для першага.

У гэтым педагагічным універсітэце даражэй за ўсё абыдзецца навучанне для студэнтаў-першакурснікаў, якія выберуць спецыяльнасці "музычнае мастацтва, рытміка і харэаграфія", "музычнае мастацтва і сусветная мастацкая культура", – 2800 рублёў.

Прымаць дакументы ВНУ будуць з 12 па 17 ліпеня, адзначае belta.by. З 15 лістапада па 5 снежня – на завочную форму ва ўстановы вышэйшай адукацыі сельскагаспадарчага профілю.

Прыём дакументаў ад грамадзян, якія вырашылі паступаць на платнае аддзяленне і не будуць здаваць уступныя іспыты непасрэдна ў саміх ВНУ, будзе весціся з 12 ліпеня па 4 жніўня.

З 12 па 14 ліпеня могуць падаваць дакументы выпускнікі профільных класаў педагагічнай накіраванасці, якія паступаюць на педагагічныя спецыяльнасці.

Тэрміны залічэння ў ВНУ на навучанне за кошт сродкаў бюджэту – па 28 ліпеня (за выключэннем ваенных устаноў вышэйшай адукацыі), на платнай аснове – па 6 жніўня (за выключэннем некаторых ваенных ВНУ і навучальных устаноў культуры).

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Ларыса ЖЫГАР: «Наталля Качанава нас прыняла вельмі цёпла...»

*Лідар «Матчынага руху 328» распавяла «Народнай Волі» пра сустрэчу з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта.*



Нагадаем, што «Матчын рух 328» – гэта грамадскае аб'яднанне, якое змагаецца за правы асуджаных за незаконны абарот наркотыкаў. Першапачаткова было патрабаванне наконт перагляду шэрагу крымінальных спраў. Выказвалася меркаванне, што следства неабгрунтавана кваліфікавала ўчынкі некаторых асоб па больш цяжкіх частках 328-га артыкула, чым належала.

З часам патрабаванні грамадскасці пашырыліся да ўнясення змен у антынаркатычнае заканадаўства. Пад уплывам аб'яднання «Матчын рух 328» Палата прадстаўнікоў сёлета прыняла змены ў Крымінальны кодэкс: ніжні парог пакаранняў па 2-й і 3-й частках артыкула 328 быў зменшаны на два гады.

– Сустрэча з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Наталляй Качанавай працягвалася каля паўтары гадзіны, – кажа **Ларыса ЖЫГАР**. – У нашай групе была я і яшчэ тры жанчыны – тыя, хто браў удзел у нядаўняй галадоўцы, якая працягвалася з 11 чэрвеня па 3 ліпеня.

**– Былі здзіўлены такім запрашэннем?**

– Падчас галадоўкі я, як прадстаўнік ініцыятыўнай групы, прыехала ў Адміністрацыю прэзідэнта і сказала: «Жанчыны галадаюць каля двух тыдняў, дык чаму вы не звяртаеце на гэта ўвагі?» Мяне тады запэўнілі: «Наталля Іванаўна вас абавязкова прыме».

Тады ішлі Еўрапейскія гульні, і, мабыць, было не да гэтай праблемы. Але да нас напрыканцы чэрвеня прыязджаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Валерый Гайдукевіч. Як пазней высветлілася, яго паслала менавіта Наталля Качанава, каб ён высветліў нашы патрабаванні.

**– Якія ўражанні ад сустрэчы?**

– Прыём быў вельмі цёплы, адбыўся канструктыўны дыялог. Мы настойвалі, як і раней, на асабістай сустрэчы з прэзідэнтам, нам сказалі, што гэтую просьбу перададуць. Таму будзем спадзявацца.

І, натуральна, мы выказалі ўсё тое, што ў нас набалела, прыводзілі канкрэтныя факты, якія паказвалі несправядлівасць судовых рашэнняў па справах нашых дзяцей.

**– Што стала вынікам вашага паходу ў Адміністрацыю прэзідэнта?**

– Наталля Іванаўна сказала, што на наступным тыдні яна збярэ прадстаўнікоў усіх сілавых структур, адбудзецца абмеркаванне пытанняў, якія мы і паставілі на сустрэчы. І на працягу месяца нам павінны даць адказы на ўсе пытанні, якія задаваліся. Таму пабачым, які эфект будзе ад гэтай сустрэчы. А напрыканцы Наталля Іванаўна нам сказала: «Вы толькі больш не аб'яўляйце галадоўку. Вы яшчэ патрэбны сваім дзецям...»

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ПОЗИЦИЯ

## Белорусская оппозиция приняла в Литве совместное заявление против запуска БелАЭС

Руководители восьми белорусских оппозиционных партий и общественных объединений собрались в Литве и приняли совместное заявление, в котором предлагается отложить запуск Белорусской АЭС, строительство которой завершается в Островце (Гродненская обл.).

Заявление подписали руководители Партии БНФ, Объединенной гражданской партии (ОГП), Белорусской социал-демократической партии (Грамада), движения «За свободу», оргкомитета по создании партии «Белорусская христианская демократия», Белорусской партии «Зеленые», общественной инициативы «Наш Дом» и оргкомитета партии женщин «Надежда».

«Считаем, что запланированный пуск Островецкой АЭС создает неприемлемые риски для людей и природы Беларуси, затрагиваемых стран, а также для экономической и финансовой устойчивости Беларуси; угрожает национальной независимости, суверенитету страны; готовится в условиях безответственности и непрозрачности. Обращаемся к принимающим решения органам и организациям, гражданам Беларуси с призывом отложить пуск Островецкой АЭС до того времени, пока все упомянутые выше проблемы не будут полностью решены», – сказано в заявлении, которое опубликовано на сайтах политических организаций.

Свое заявление подписанты мотивируют рядом проблем, связанных с безопасностью, обращением с отходами, интегрированием в энергосистему и сбытом электроэнергии БелАЭС.

В частности, заявление связано с отсутствием на сегодняшний день «не только стратегии, но и приемлемых безопасных решений по обращению с отработавшим ядерным топливом (ОЯТ) Островецкой АЭС, которые были бы обсуждены с общественностью в соответствии с законодательством и международными обязательствами Беларуси». В том числе оппозиция указывает на отсутствие соглашения между Беларусью и Россией по переработке ОЯТ Островецкой АЭС.

Подписанты также заявляют о наличии ряда «существенных проблем безопасности, выявленных в результате европейской партнерской проверки и общественной экспертизы стресс-тестов Островецкой АЭС, включая недоказанность сейсмоустойчивости оборудования, влияющего на безопасность, функциональности пассивных и активных систем безопасности проекта АЭС-2006, а также безопасность работы недостаточно опробованной на практике реакторной установки, несоответствие российского проекта АЭС-2006 современным подходам к безопасности и рекомендациям МАГАТЭ и WENRA».

В заявлении также констатируется «отсутствие публичных и актуальных данных об экономической целесообразности Островецкой АЭС и отсутствие востребованности дополнительной электрогенерации». При этом отмечается «существенный вклад в увеличение внешнего долга Беларуси».

Кроме того, лидеры оппозиции утверждают, что БелАЭС окажет негативное влияние в области экологии и культурного наследия. В частности, они заявляют о негативном влиянии АЭС «на краснокнижных представителей фауны, включая лососевых, которым грозит исчезновение в результате повышения температуры в реке Вилия».

В заявлении подчеркивается «усиление многофакторной (технологической, энергетической, экономической) зависимости Беларуси от Российской Федерации». Оппозиционные движения также утверждают, что БелАЭС представляет собой «источник трансграничных споров с соседними странами (например, Литвой)», так как «при строительстве была нарушена конвенция Эспоо ЕЭК ООН, новые нарушения по выбору площадки были отмечены внеочередной Встречей сторон Конвенции в 2019 году».

Белорусская АЭС возводится в Островецком районе Гродненской области (в 50 км от границы с Литвой) по российскому проекту «ВВЭР-1200». Она будет состоять из двух энергоблоков мощностью 1200 МВт каждый. Пуск первого энергоблока запланирован на конец 2019 года, второго – на 2020 год. Генподрядчиком строительства АЭС является «Атомстройэкспорт» (структура «Росатома»). Беларусь ведет строительство АЭС в тесном партнерстве с МАГАТЭ и Европейской группой по регулированию ядерной безопасности (ENSREG) и готовится выпустить национальный план мероприятий по дальнейшему повышению безопасности АЭС.

Литва является радикальным противником строительства и запуска БелАЭС. В связи с этим Литва выступает против подписания соглашения о приоритетах партнерства между Беларусью и Евросоюзом, которое Минск инициирует в течение ряда лет.

*(Interfax.by.)*

ДАЛЁКАЕ–БЛІЗКАЕ



## Алесь БЯЛЯЦКІ: «Барацьба за Курапаты працягваецца ўжо 30 гадоў»

*У Мінску праваабаронцы прэзентавалі ўнікальную фотавыставу.*

Выстава «Курапаты. Дзяды-1989. 30-я ўгодкі шэсця і ўсталявання Крыжа Пакуты» арганізавана праваабаронцамі-«вясноўцамі» і Цэнтрам грамадзянскай супольнасці, якім кіруе Паліна Сцепаненка. У яе аснову пакладзены працы вядомага беларускага фатографа **Уладзіміра Сапагова**, які ў 80-я гады мінулага стагоддзя быў удзельнікам маладзёжнага дэмакратычнага руху. Жыў Уладзімір у інтэрнаце Мінскага трактарнага завода. Пасля яго смерці ў 2012 годзе прадстаўнікі адміністрацыі інтэрната выкінулі на сметнік арыгіналы фотаздымкаў, але негатывы ўдалося ўратаваць.

Дарэчы, на выставе можна ўбачыць фотаздымкі першага крыжа ў Курапатах – Крыжа Пакуты, які захаваўся там да гэтага часу...

– Трыццаць год прайшло з таго часу, як на месцы масавых расстрэлаў паставілі першы крыж, але сёння тэма Курапатаў набыла новае значэнне, – кажа праваабаронца **Алесь Бяляцкі**. – Асабліва ў святле вясновых падзей, калі ўлады ў мемарыяле павырывалі крыжы.

Таму барацьба за Курапаты была і трыццаць гадоў таму, працягваецца яна і зараз. А выстава – напамін пра тое, з чаго ўсё пачыналася. Мяркую, Уладзіміру Сапагову ўдалося перадаць дух той шматтысячнай акцыі, якая была праведзена на Дзяды ў 1989 годзе. Гэта быў час спадзяванняў на дэмакратычную Беларусь і добрую будучыню.

**– Адным словам, выстава мае некалькі падтэкстаў...**

– Так, гэта і хроніка падзей нашай гісторыі, і памяць людзей, якія актыўна дзейнічалі ў тыя далёкія часы.

**– А якія ў вас асабіста ўспаміны ад тых падзей трыццацігадовай даўніны?**

– І я, і Паліна Сцепаненка бралі ўдзел у той акцыі на Дзяды. І для мяне гэта было своеасаблівае шэсце перамогі дэмакратыі. Яшчэ за год да таго, у 1988 годзе, дэманстрантаў жорстка разганялі, атручвалі газам, мяне тады арыштавалі і далі прысуд. А ў 1989 годзе акцыя прайшла спакойна, што азначала наступленне дэмакратычных сіл на тагачасную таталітарную камуністычную сістэму. Улада была разгублена, а мы, агучваючы праўду пра Курапаты, фактычна праводзілі прамую сувязь паміж той уладай і тымі, хто быў перад імі. Па чыіх загадах расстрэльвалі людзей.

Актуалізацыя Курапатаў мела вялікае значэнне для дэмакратызацыі беларускага грамадства. І актуальнай застаецца і сёння.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Выстава будзе працаваць яшчэ два месяцы. Наведаць яе можна на «Тэрыторыі правоў» па адрасе: г.Мінск, вул.Ложынская, 16, памяшканне 404 (ст. метро «Уручча»).*

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА

## Оригинальный пример друзьям-алкоголикам

38-летний житель Гродно выпивал дома, а потом вышел прогуляться. Проходя возле магазина, он заглянул внутрь и попросил продавщицу нажать тревожную кнопку. Затем со стеллажа взял бутылку водки и бросил ее в витрину, разбив пять других бутылок с алкоголем.

После этого хулиган вышел из магазина и спокойно дождался приезда милиции. Свой поступок ранее никогда к уголовной ответственности не привлекавшийся мужчина объяснил тем, что хотел завязать со спиртным и показать, что употреблять его никому не стоит.

Возбуждено уголовное дело по ч.1 ст.339 Уголовного кодекса (Хулиганство). Чем все закончится – трудно сказать.



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Интеграция, но в отдельных коттеджах

Судя по всему, Россия пошла в полный отказ.

К 1 июля, согласно последним ожиданиям, должен был поступить последний транш кредита ЕФСР в размере 200 млн долларов. Не поступил.

31 декабря заканчивается действие газового контракта между Беларусью и Россией, по которому Газпром продает нам газ на границе по льготной цене 127 долларов за 1000 кубометров. Союзные государства должны были согласовать все принципиальные вопросы ценообразования на газ для нового контракта к 1 июля. Не согласовали. По словам посла Беларуси в России В.Семашко, белорусская сторона уже дважды направляла Газпрому свои предложения на эту тему. Оттуда молчок. Предложения, мол, рассматриваются.

Молчок и насчет выделения Россией Беларуси межгосударственного кредита на сумму 600–630 млн долларов, хотя многообещающие заявления на этот счет делал еще в декабре прошлого года министр финансов и вице-премьер России А.Силуанов.

Из-за явного затягивания россиянами вопроса компенсации потерь от "грязной" нефти белорусский вице-премьер И.Ляшенко пригрозил судебным процессом. Речь идет как минимум о 100 млн долларов в эквиваленте.

О компенсации белорусской экономике потерь от налогового маневра уже перестали и говорить, а там миллиарды долларов. Ответ России один: пока не завершатся переговоры об интеграции государств, как это было записано в известном договоре о Союзном государстве от 1999 года, Беларуси ничего не обломится. А записано там так, что Беларусь фактически поглощается Россией.

Рабочая группа по «интеграции», а скорее – по "интеграции-поглощению», была создана в конце прошлого года. Ее возглавили министры экономики двух стран М.Орешкин и Д.Крутой. После встречи с премьер-министром Российской Федерации Д.Медведевым белорусский премьер С.Румас заявил о том, что 90% интеграционных вопросов согласованы, а самые сложные, это как раз те самые 10%, оставлены на рассмотрение глав государств. Также премьеры договорились к ноябрю согласовать дорожную карту по углублению интеграции. Поскольку детали переговоров остаются недоступны широкой общественности, В.Путин сделал успокаивающее заявление, что, мол, хоть он и считает русских и белорусов одним народом, речь об объединении Беларуси и России сейчас не идет. Мягко стелет, да жестко спать. Заметьте, у него ключевое слово «**сейчас**», а что ожидает Беларусь завтра – об этом молчок.

Итак, о достижениях в интеграционных переговорах можно судить по высказываниям главы белорусского государства. Вот о чем А.Лукашенко сообщил на встрече с Госсекретарем Союзного государства Г.Рапотой: *«Сейчас в Союзном государстве все акценты сместились наверх. Многие вопросы планируется вывести на уровень президентов»*. При этом он отметил, что речь идет в том числе и о *«набивших оскомину вопросах, связанных с деятельностью рабочей группы министров экономики двух стран Орешкин–Крутой»*. И, что самое главное, добавил: *«Уже «завтра» нам встречаться с президентом Путиным в Питере и обсуждать итоги переговоров, а обсуждать нечего»*. Так где же те 90% согласованных интеграционных позиций, о которых докладывал публично С.Румас, если президентам обсуждать нечего?!

Вероятно, 10% несогласованных вопросов можно объединить в уже четко вырисовавшуюся российскую позицию: хотите кредитов, компенсаций, льготных цен на углеводороды и т.д. – входите в империю, тогда все эти и другие проблемы решатся сами собой. Так что, иного не дано? Только в коммунальную квартиру, где Беларусь явно не будет ответственным квартиросъемщиком?

А как сделать так, чтобы наши НПЗ были в состоянии покупать нефть по мировым ценам, как сотни НПЗ в других странах? Зачем они завершают реконструкцию? Почему Польша может платить России за газ мировую цену, а Беларусь не может? Ведь в конце 2020 года вступит в строй БелАЭС, энергия которой заменит четверть поступающего из России природного газа.

Необходимо понять, что поезд с разного рода российскими преференциями безвозвратно ушел и руководству страны впору поменять свою психологию и направить усилия на обеспечение финансовой самодостаточности экономики. Пусть Россия остается одним из главных партнеров Беларуси, но разговаривать с ней нужно на независимых, взаимовыгодных бизнес-позициях, как это, например, делает Финляндия. Для этого надо избавиться от газово-нефтяного проклятия, опереться на богатство белорусского человеческого капитала, раскрепостить экономику.

Встреча президентов Беларуси и России запланирована на Валааме. Президенты по интеграционным вопросам встречаются уже больше полугода. И все безрезультатно. Наверное, потому, что все-таки белорусы и русские – разные народы. И хотят жить в отдельных, пусть и соседних, коттеджах.

САЛІДАРНАСЦЬ

# Студэнты з пяці краін прыедуць ратаваць возера Белае

Экалагічная акцыя па добраўпарадкаванні тэрыторыі на беразе возера Белае адбудзецца ў Гродзенскім раёне.

Згодна з планам рэалізацыі праекта, у аграгарадку Азёры на беразе возера ўжо падрыхтавана пляцоўка і ўсталявана сістэма песканафтааддзяляльнікаў сцёкавых вод. Гэта дазволіць давесці ўтрыманне ўзважаных рэчываў у вадзе да ўзроўню не больш за 10 мг/л, а нафтапрадуктаў – не больш за 0,05 мг/л. Агульная колькасць адходаў, якія трапляюць у возера Белае, мусіць знізіцца прыблізна на 79,67 кг у год.

Зараз возера знаходзіцца пад пагрозай сур'ёзнага забруджвання. Побач з ім праходзіць траса Р145 з інтэнсіўным рухам. Воды, якія паступаюць з таго боку, забруджаны нафтапрадуктамі, маторным алеем, цяжкімі металамі, солямі. Праз іх фарміруецца паверхневы пласт, які блакіруе кісларод і прыводзіць да гібелі водных арганізмаў, валодае таксічнымі, мутагеннымі і эндагеннымі ўласцівасцямі, мяняе кіслотны індэкс глебы.

Неабходныя работы на беразе правядуць студэнты Міжнароднай летняй школы для моладзі «Захаванне водных рэсурсаў возера Белае і праблемы атрымання чыстай пітной вады» з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Туркменістана і супрацоўнікі ўнітарнага прадпрыемства «Кока-Кола Бэўрыджыз Беларусь».

Мерапрыемства ўключана ў праграму праекта па захаванні і ўстойлівым кіраванні воднымі рэсурсамі Рэспубліканскага ландшафтнага заказніка «Азёры».

Дадзены праект выконваецца Міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Экалагічная ініцыятыва «БУРЕНКО-ПЛЮС» пры фінансавай падтрымцы сумеснай праграмы «Новы свет» Фонду The Coca-Cola Foundation і арганізацыі Global Water Challenge (ЗША). Мэтай праекта з'яўляецца ў тым ліку захаванне ўнікальных прыродных комплексаў возера Белае шляхам рацыянальнага выкарыстання яго водных рэсурсаў.

Возера Белае, адно з найбуйнейшых у Гродзенскім раёне, фарміруе адзіную водна-балотную сістэму з унікальнымі прыроднымі комплексамі і вялікай біяразнастайнасцю, якая ўключае больш за 30 відаў, занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Александр ЯНОВСКИЙ: «У нас задержанные могут годами сидеть в следственном изоляторе…»



*Генеральный директор ОАО «Керамин» стал лауреатом конкурса «Человек Дела» в номинации «За стабильную и эффективную работу на белорусском и зарубежном рынках». Александр Яновский не впервые участвовал в церемонии вручения «Оскара» белорусского бизнеса – он уже был отмечен на конкурсе «Человек Дела» как руководитель концерна «Амкодор».*

*Яновского называют совестью отечественного бизнеса, руководителем высочайшего уровня, он сам считает себя убежденным рыночником. Поэтому «Народная Воля» поинтересовалась его мнением по поводу недавних громких арестов директоров крупных промышленных предприятий.*

**– Александр Владимирович, на ваш взгляд, почему такая беда случается с директорами? Некоторые говорят, что проблема в не очень высоких зарплатах директорского корпуса: мол, все живые люди, нужно думать о завтрашнем дне…**

– Некоторых из тех, о ком вы говорите, я лично знаю, причем не одно десятилетие. Главное, что человек нарабатывает в своей жизни, – это репутация. И никакие деньги не смогут минимизировать ее потерю. Особенно когда речь идет о каких-то тысячах рублей, какие-то суммы смешные называются… Я просто этого не понимаю и не всегда верю, что эти сведения объективны. Умеют наши правоохранительные органы подавать информацию! Я не специалист, конечно, но посмотрите: у нас задержанные могут годами сидеть в следственном изоляторе. Но если у правоохранительных органов есть информация о совершении преступления, почему годами нужно доказывать, что это произошло? Наверное, что-то там не совсем объективно. Это я говорю в отношении тех людей, которых знаю…

Что касается зарплаты директорского корпуса, она действительно, скажем так, небольшая. Особенно если сравнивать с соседями. В России и Украине директора гораздо меньших предприятий имеют более серьезный доход. Я говорю про госсектор, потому что работаю на государственном предприятии, у нас 75 процентов доля государства, и такие правила устанавливает собственник. Может, кого-то напрягает небольшая зарплата, и он ищет сторонний заработок… Наверное, при этих зарплатах некие структуры могут что-то предлагать и находить слабые звенья в нашем директорском корпусе. Наверное, такое есть. Но, честно говоря, слишком этого мало.

**– Жизнь – это качели. И бывали случаи, когда директора предприятий или бизнесмены становились лауреатами престижного конкурса, а через некоторое время их приглашали в СИЗО. Почему среди директоров предприятий нет солидарности? Почему все молчат и никто публично не выступает в защиту того же бывшего директора БелОМО Вячеслава Бурского и других? Почему все делают вид, что их это не касается? Боятся, что завтра и к ним придут?**

– Я этого совершенно не боюсь. Но, должен заметить, такой корпоративности нет не только среди директорского корпуса. У многих ее нет. У нас народ, скажем так, не очень склонен к этому. Почитали, поверили не поверили, повозмущались и все на этом.

Наверное, союзы некие, объединения должны выступать в защиту. И я готов в этом участвовать! Но слабо себе представляю, с кем сегодня можно скооперироваться, потому что разъединение достаточно серьезное. И кадры так часто меняются… Я сегодня в своем Министерстве промышленности, наверное, половину людей не знаю в лицо. Я готов повторить то, с чего начинал отвечать на ваши вопросы: не верю во многие новости, которые касаются директоров предприятий. И совершенно честно об этом говорю…

**Марина КОКТЫШ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Генпрокурор насторожился…



*Генеральная прокуратура Беларуси проверяет уголовные дела, возбужденные в отношении адвоката Веры Орешко, которая представляла интересы главного инженера ОАО «Минский завод колесных тягачей» Андрея Головача.*

«Возбуждение уголовного дела в отношении адвоката вызвало настороженность у меня как у судьи. Я столько лет проработал судьей, знаю, что это такое. Мы очень серьезно проверяем дела, возбужденные в отношении адвоката, не исключаю, что там будут Генеральной прокуратурой приняты кардинальные решения», – цитирует генпрокурора naviny.by.

На адвоката завели два уголовных дела – за разглашение данных дознания, предварительного следствия или закрытого судебного заседания. Санкция статьи предусматривает штраф или арест или ограничение свободы на срок до трех лет с лишением права занимать определенные должности или заниматься определенной деятельностью или без лишения.

В ходе предварительного расследования правоохранители также провели обыск по месту жительства женщины и нашли пистолет Walter mod. 1938 (P.38) и патроны к нему, что грозит наказанием в виде лишения свободы сроком до семи лет.

Бывший главный инженер ОАО «МЗКТ» Андрей Головач был задержан весной 2015 года вместе с несколькими сотрудниками предприятия. В феврале 2018-го суд оправдал его по обвинению в получении взяток на сумму более 180 тысяч деноминированных рублей, но сразу же после вынесения приговора он был задержан в зале суда по подозрению в получении взяток на сумму 192 тысячи долларов и 35 тысяч евро. По версии следствия, эти события происходили с 2008-го по 2015 год.

РЭГІЁН

# Пікет забаранілі, Дзяржстандарт не бачыць парушэнняў, але…

*У Лідзе працягваецца канфлікт паміж жыхарамі вуліцы Тухачэўскага, забудоўшчыкам новага дома, фірмай ААТ «Будвектар», і Лідскім райвыканкамам.*

## Вырашылі падаць новую заяўку на пікет

У мінулым нумары "Народная Воля" пісала аб канфліктнай сітуацыі, якая склалася ў Лідзе: жыхары вуліцы Тухачэўскага выступаюць супраць незаконнага, на іх думку, будаўніцтва жылога дома. Яны сцвярджаюць, што новы дом у тым месцы, дзе яго хочуць будаваць, прынясе ім шмат нязручнасцяў. Паводле перакананняў жыхароў, улады праігнаравалі патрабаванне аб правядзенні грамадскіх слуханняў, чым парушылі заканадаўства.

Забудоўшчык, ААТ «Будвектар», і Лідскі райвыканкам запэўніваюць, што заканадаўства не парушана і ўсе будаўнічыя нормы адпавядаюць беларускім стандартам.

Ініцыятыўная група, якая стыхійна ўтварылася з жыхароў вуліцы Тухачэўскага, падала заяўку на правядзенне пікета супраць будаўніцтва дома. З райвыканкама прыйшоў адказ: адмоўлена.

Прычынай адмовы стала тое, што ў заяву закралася памылка: «...у прыкладзеных вамі абавязацельствах арганізатара масавага мерапрыемства не ўказана дата яго правядзення, а час правядзення не адпавядае часу, які ўказаны ў заяве».

Аўтар заявы Ігар Маскалёў сказаў "Народнай Волі", што ініцыятыўная група прыняла рашэнне падаць новую заяўку на пікет.

## Ёсць станоўчае заключэнне

Маскалёў таксама атрымаў адказ з Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі Рэспублікі Беларусь. У ім паведамляецца, што праектная дакументацыя на будаўніцтва дома мае станоўчае заключэнне і пры правядзенні дзяржаўнай экспертызы не выяўлена яе неадпаведнасці заходнай і дазвольнай дакументацыі.

А гэта, маўляў, азначае, што падстаў для прыняцця мер па ануляванні аб'екта няма.

## Новыя скаргі

У адказ на гэта Маскалёў накіраваў новыя скаргі ў Дзяржстандарт і Мінпрыроды, якія аргументаваў тым, што праект забудовы не прадугледжвае размяшчэння ўказанага жылога дома на ўчастку, які назначаны ў праектнай дакументацыі аб'екта.

Зацверджаны ва ўстаноўленым парадку горадабудаўнічы праект дэтальнага планавання на тэрыторыі, якая ўключае і план будаўніцтва новага дома, адсутнічае. А гэта азначае, што размяшчэнне аб'екта не пацверджана дэтальным планам.

«Паводле заканадаўства, у дадзеных выпадках павінны праводзіцца грамадскія абмеркаванні ў форме інфармавання фізічных і юрыдычных асоб і аналіз грамадскай думкі для архітэктурна-планіровачных канцэпцый аб'екта будаўніцтва», – кажа Ігар Маскалёў.

Так што канфлікт з забудоўшчыкам і мясцовай уладай у жыхароў вуліцы Тухачэўскага яшчэ не скончаны, папросту перайшоў у новую форму.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

МАРШРУТЫ

# БЖД запустила дополнительный поезд на Вильнюс из-за повышенного спроса

По информации пресс-службы БЖД, состав будет курсировать до 31 августа один раз в неделю по субботам. Стоимость билета в одну сторону составит 45 рублей. В пути следования поезд делает остановки на станциях Молодечно, Сморгонь и Гудогай.

Поезд №809 Минск–Вильнюс отправляется из Минска в 13 часов 50 минут и прибывает в Вильнюс в 17 часов.

В обратном направлении поезд №810 Вильнюс–Минск отправляется в 12 часов 40 минут и прибывает в Минск в 15 часов 50 минут.

Пограничный и таможенный контроль на территории Беларуси пассажиры проходят на станции Гудогай, а на территории Литвы – на вокзале Вильнюса.

В настоящее время между Минском и Вильнюсом ходят пять составов.

РЭЗАНАНС

# Уладзімір Краўцоў супакойвае…

Некалькі тыдняў таму «Народная Воля» пісала аб экалагічнай катастрофе, якая здарылася ў Лідскім раёне. Забруджаная вада з ачышчальных збудаванняў патрапіла ў раку Дзітву і далей у Нёман. Гэта выклікала масавы памор рыбы.

Калі ў праблеме пачалі разбірацца, то высветлілася, што да гэтага маюць дачыненне ачышчальныя збудаванні горада Ліды. Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў на прэс-канферэнцыі, адказваючы на пытанне пра стан паверхневых вод, заўважыў, што ачышчальным збудаванням у



Лідскім раёне амаль 50 гадоў. Яны мадэрнізаваны, але ўсё роўна не адпавядаюць сучасным патрабаванням.

У 2002 годзе былі пабудаваны дадатковыя ачышчальныя збудаванні, а зараз распрацаваны праект па рэканструкцыі новых. Тэрмін яго рэалізацыі, паводле слоў Краўцова, 2022 год.

Старшыня аблвыканкама зазначыў, што гэта праблема характэрна і для іншых гарадоў вобласці. А таму вызначаны пералік аб'ектаў, якія прапануюцца для фінансавання за кошт сродкаў міжнародных арганізацый. У гэты спіс уключаны ачышчальныя збудаванні ў Слоніме, Шчучыне, Воранава, будаўніцтва ачышчальных збудаванняў і каналізацыі ў Ашмянах.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА – Генрых ДАЛІДОВІЧ

# «Як ты ні муруй, а жывыя парасткі праб'юцца на свет…»

*На апетай у знакамітай паэме Лысай Гары пад Заслаўем даўно ўжо нічога значнага не адбываецца. На пяцісоткавых надзелах ціхмяна туляцца сціплыя дамкі, у вузкіх завулках з цяжкасцю разміначюцца рэдкія легкавікі, ды і саміх лысагорцаў не відаць. Асабліва тых, са старой кагорты, з часоў, калі на Лысай Гары віравала жыццё. А як яно віравала, відно хоць бы па гэтым урыўку з паэмы, дзе апісана будаўніцтва аднаго пісьменніцкага лецішча: «Другі маштаб – другая марка: / калі яму стаўлялі дом – / тры дні вішчэла цыркулярка, / чатыры дні звінела чарка, / і цэлых пяць сквірчэла скварка, / і кожны дзень вялася сварка, – / былі гамора і садом»…*

*З гадзіну паблукаўшы па лысагорскіх сцежках, я нарэшце адшукаў хату пісьменніка Генрыха ДАЛІДОВІЧА, з якім мы дамовіліся пасумоўнічаць для «Дыялогаў».*

**– Генрых Вацлававіч, вы лысагорскі старажыл, але ваша прозвішча не згадваецца ў «Сказе пра Лысую Гару». Чаму?**

– Будаўніцтва свайго лецішча я пачаў толькі ў 1983 годзе, калі Лысая Гара была ўжо збольшага забудавана. Гэты дамок мне фактычна падарылі налібоцкія леснікі. Маўляў, ты пішаш пра нашу пушчу, то мы табе дапаможам з драўнінай. Бацька на месцы склаў зруб (па маім чарцяжы), і мы перавезлі яго сюды. Мне хацелася мець хатку са свайго Налібоцкага краю. Нават вокны прывёз адтуль. Мы з жонкай жывём тут з канца красавіка па лістапад. Калі будаваліся, то існавалі строгія абмежаванні: дом не павінен быў перавышаць 35 квадратных метраў – 25 «цёплых» і 10 «халодных».

**– Па-мойму, у вас тут значна больш.**

– Так, разам 48 метраў. На свой страх і рызыку перавысілі нарматывы. Першым лысагорцам дазвалялася пры будаўніцтве выкарыстоўваць толькі дошкі і ўцяпляльнік, а мы ўжо будаваліся па-сур'ёзнаму. Помню, падышоў Іван Пташнікаў, паглядзеў, як мы сякерамі цюкаем, і ўсміхнуўся: «Вызывает почтение» (ён часам выказваўся чамусьці па-руску). Я і цяпер люблю бавіць час з сякерай ці нажоўкай у руках. Усе прыбудоўкі сам парабіў.

**– А хто з пісьменнікаў разам з вамі летуе на Лысай Гары?**

– Цяпер мае суседзі – Анатоль Вярцінскі, Васіль Жуковіч, Галіна Каржанеўская, Уладзімір Сіўчыкаў, унук Кузьмы Чорнага Мікола Раманоўскі. Многіх слынных лысагорцаў ужо няма на свеце – Анатоля Вялюгіна, Вячаслава Адамчыка, Івана Навуменкі… Нашчадкі пераважна папрадавалі лецішчы, новыя гаспадары ад нас трымаюцца адасоблена, у іх свае інтарэсы. Калі на выхадныя прыязджаюць, то нам хоць уцякай у Мінск – бзыяць бензакасілкі, грыміць музыка.

### «На вайне вышэй за ўсё права зброі»

**– Вам, як былому хутаранцу, хочацца спакою?**

– Так, на хутары Амшарок, што паблізу вёскі Янкавічы на Стаўбцоўшчыне, я пражыў 15 гадоў. І калі пазней чытаў раман «Жыццё Арсеннева» Івана Буніна, то здзіўляўся, чаму яго герой-хутаранец сумаваў. Мне не было сумна, я не адчуваў ніякай адарванасці ад свету. Бацька, маці, нас у сям'і было шасцёра, гаспадарка… З малога я пачаў працаваць – пасвіў кароў, касіў, сек дровы. Электрычнасці на хутары не было, бацька зрэдку даваў слухаць радыё на батарэйках, беларускія перадачы з Мінска. Потым многае з хутаранскага жыцця ўвайшло ў мае творы.

**– Ваш раман «Заходнікі» ў 1996 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Там, між іншым, расказваецца, як вёску Налібакі спалілі савецкія партызаны. Як вы выйшлі на гэту тэму?**

– Пра трагедыю ў Налібаках я ведаў ад маці. У маі 1943 года яна дзяўчынкай прыбегла туды да радні, а там – пабітыя людзі. Кроўю заліта была вуліца, і маці ў 13 гадоў ад убачанага пасівела… Тады загінулі 128 налібачан, у тым ліку дзеці. Пішучы пра гэта ў «Заходніках», я спрабаваў размаўляць з былымі партызанамі, але ўсю праўду пра тую трагедыю так і не даведаўся. Ведаю толькі, што некаторыя закінутыя ў нашы мясціны спецгрупы з Масквы пераапраналіся ў нямецкую форму, палілі вёскі і забівалі людзей, каб выклікаць нянавісць мясцовага насельніцтва да фашыстаў. А яшчэ ў налібоцкіх лясах дзейнічала і Армія Краёва, і акружэнцы, і звычайныя бандыты.

**– У нашай літаратуры жыццё беларуса пад акупацыяй доўгі час падавалася спрошчана: гераічныя народныя мсціўцы білі нягоднікаў-фашыстаў. Пімен Панчанка, помніцца, іранізаваў, як гэта «баба Агата адной качаргой угробіла тысячу немцаў».**

– Псеўдагероікі хапала і ў літаратуры. А вось ва Уладзіміра Дамашэвіча была аповесць з красамоўнай назвай «Між двух агнёў». Там слушна сказана: вайна мае свае жудасныя законы, там вышэй за ўсё права зброі.

### «Мой бацька для сям'і Дзяржынскага рабіў плугі і сярпы»

**– А як вам удалося атрымаць за «Заходнікаў» Дзяржпрэмію?**

– Пасля таго як раман быў вылучаны (дарэчы, разам з нейкім творам Мікалая Чаргінца), у камітэт па прэміях пайшлі выкрывальныя лісты: Далідовіч непачціва напісаў пра партызан, пра савецкую ўладу і г.д. Мне Іван Шамякін расказваў, як з самага верху ў яго пацікавіліся: што рабіць? І Іван Пятровіч адказаў: «Далідовіч прэмію даўно заслужыў. Не дасцё за «Заходнікаў» – атрымае за гістарычны раман «Кліч роднага звону» ці за кнігу лірычнай прозы «Жар кахання». Так што трэба даваць». І прэмія дасталася мне. Дарэчы, указ аб прысуджэнні падпісаны Аляксандрам Лукашэнкам.

**– Дзесьці я чытаў, што дзесяцёра вашых стрыечных братоў жывуць у Польшчы. Чаму вашы сваякі масава выязджалі на Захад?**

– Падчас вайны ў Германію былі вывезены мая бабуля, тры дзядзькі і цётка – мая хросная. Яны працавалі ў баўэра, а калі закончылася вайна, ім польскія эмісары прапанавалі зямлю і дамы ў Гданьскім ваяводстве, на гэтак званых вернутых землях. Яны і падаліся туды. Клікалі і бацьку, але ён застаўся на радзіме. Яшчэ ў 1950-я гады нашы янкавічане выязджалі ў Польшчу. З 1921 года многія з іх (каталікі ж!) былі запісаны палякамі.

**– А ў вас у савецкім пашпарце што было напісана?**

– Паляк. Помню, Ніл Гілевіч казаў: «Пабольш бы такіх палякаў у нас было!» Калі я служыў у арміі, мяне хацелі выбраць сакратаром камсамольскай арганізацыі батальёна. Выклікаў асабіст: «Почитал я ваше дело, все нормально – никто в полиции не служил, осужденных в родне нет. Но вот национальность ваша…» Я паказаў на партрэт на сцяне і пытаюся: «А як вы, таварыш маёр, ставіцеся да Дзяржынскага? Нармальна? А ён жа паляк! І я яго зямляк. Мой бацька-каваль для бацькі і братоў Дзяржынскага рабіў плугі і сярпы. Я школьнікам даглядаў магілы яго сваякоў». – «Да? У меня к вам больше вопросов нет». Так у 1970 годзе я стаў камсоргам батальёна, гэта была афіцэрская пасада.

### «Дакументы БНР я атрымаў у «Гісторыі КПСС»

**– Вы першым у беларускай літаратуры напісалі раманы пра часы, калі ствараліся БНР і БССР. «Гаспадар-камень» выйшаў у 1986-м, «Пабуджаныя» – у 1988-м, «Свой дом» – у 1989-м. Але ж яшчэ існаваў Галоўліт і спецфонды ў архівах. Як вам удавалася абыходзіць цэнзуру і знаходзіць патрэбную інфармацыю?**

– На філфаку БДУ гісторыю Беларусі мне выкладаў сумна вядомы Абэцэдарскі, які казаў: «Беларусь і я нарадзіліся ў адзін год». А я думаў: «Хіба да гэтага Беларусі не было?» Потым я пазнаёміўся з працамі Мікалая Сташкевіча, які даваў мне літаратуру са спецфондаў. Напрыклад, справу Канстанціна Езавітава мне ўдалося прачытаць яшчэ тады. У першым рамане я паказаў сітуацыю ў Мінску перад 1917 годам, у другім – рэвалюцыйныя падзеі, а ў трэцім – утварэнне БНР і БССР. Безумоўна, сёння я пісаў бы іначай, з другімі ацэнкамі. Але перапісаць нанова ўсю трылогію ў мяне няма ні сіл, ні жадання.

**– Вы згадалі гісторыка Сташкевіча. Помню, як ён заўзята выкрываў «беларускіх буржуазных нацыяналістаў».**

– Так, але яго кнігі чыталіся з цікавасцю. У свой час я размаўляў з Зянонам Пазьняком, і ён сказаў: «Сташкевіч – гісторык партыйны, але ён, выкрываючы «белбурнацаў», дае вялікія цытаты, пачытаеш – усё на сваё месцы становіцца».

**– І ўсё ж напісаць гістарычны раман, грунтуючыся на адных цытатах, наўрад ці магчыма.**

– А мне ўдалося сёе-тое знайсці і ў архівах, дзе я дамаўляўся з супрацоўніцамі. Скажам, мне прыносілі папкі з прафсаюзнымі матэрыяламі, а ўсярэдзіне ляжала справаздача пра Усебеларускі кангрэс 1917 года, якая не рэгістравалася. Разоў пяць-шэсць такія хітрыкі праскочылі, а потым мяне «цапнуў» 1-ы аддзел, які вырашаў, што і каму можна выдаваць. Але паколькі мой доступ яны ўжо праваронілі, то не ў іх інтарэсах было даваць справе ход.

**– А ці ведалі вы, што ў недалёкім Вільнюсе жыла Зоська Верас – удзельніца і сакратарка беларускіх з'ездаў 1917 года?**

– Ведаў, мяне з ёю завочна пазнаёміла светлай памяці Валянціна Коўтун. У Мінск прыязджаў і прывозіў для мяне матэрыялы Лявон Антонавіч Луцкевіч, зяць Зоські Верас. Тая ж Коўтун прывезла мне з ЗША – па ўсіх правілах канспірацыі – апублікаваныя там дакументы пра ўтварэнне БНР. Валянціна ўзяла кнігу «Гісторыя КПСС», выдрала старонкі і ўшыла туды дакументы БНР. Памежнік у Маскве пацікавіўся: «А что это вы «Историю КПСС» из США везете?» А Коўтун у адказ: «Я же была в капиталистическом мире, проповедовала там коммунизм». І яе больш не правяралі.

**– Аднак тая ж Зоська Верас мела да вашых раманаў крытычныя заўвагі. Гэта відно па яе лістах, сабраных у кнізе «Я помню ўсё».**

– Яна сапраўды мела фенаменальную памяць. Скажам, слоўны партрэт Зоські Верас на з'ездзе 1917 года я даў паводле здымка года 1916-га. І тут жа атрымаў ад яе ліст: маўляў, я тады ў другой сукенцы была...

### «Трагедыя, што здарылася 3 ліпеня, – пакаранне за гістарычнае бяспамяцтва»

**– У рамане «Свой дом» вы паказалі, у якіх драматычных умовах ствараласяБССР, як Мяснікоў і Кнорын з паплечнікамі стараліся не дапусціць ніякай беларускай рэспублікі. Ідзеш па мінскіх вуліцах – паўсюль імёны вашых герояў. Яны заслугоўваюць гэтага?**

– Ніводзін з іх не заслугоўвае права на вуліцу ці плошчу ў Беларусі! Яны бачылі Беларусь Паўночна-Заходнім краем ці Заходняй вобласцю. Той жа Фрунзэ рабіў усё магчымае, каб у Беларусі не было нацыянальнай школы. Кнорын і Мяснікоў выступалі супраць беларускай рэспублікі да самых апошніх дзён. Калі пачалося наступленне польскіх войск, а беларускае пытанне новым бальшавіцкім урадам так і не было вырашана, Цішка Гартны (Зміцер Жылуновіч) дамогся прыёму ў Леніна, кінуў яму на стол свой партбілет (а ён быў членам партыі з 1902 года) і сказаў: «Не хочаце беларускай рэспублікі, дык атрымаеце Польшчу па самы Смаленск!» І пасля гэтага было вырашана ўтварыць Савецкую Беларусь.

**– Дарэчы, 100-годдзе БССР сёлета адзначалася даволі сціпла. Не параўнаеш са святкаваннем 3 ліпеня. Як вы ставіцеся да гэтай святочнай даты?**

– Я перакананы, што Дзень Незалежнасці наш народ павінен адзначаць 25 сакавіка. У гэты дзень у 1918-м была ўпершыню прадэкларавана незалежнасць Беларусі. А 3 ліпеня быў вызвалены Мінск, палова Беларусі яшчэ знаходзілася пад немцамі. То што тут святкаваць? Увогуле, ваенныя даты ў нас адзначаюцца неяк дзіўна. 22 чэрвеня ў Брэсцкай крэпасці ладзіліся танцы, 3 ліпеня па ўсёй краіне – масавыя гулянні. Выбачайце, хіба так можна? І трагедыя, што здарылася ў Мінску падчас салюту, – як пакаранне за наша гістарычнае бяспамяцтва.

**– У Нацыянальнай бібліятэцы я часам гартаю часопісы «Полымя» і «Маладосць» – няма за што воку зачапіцца. Графаманістыя вершы, бяззубая публіцыстыка… Што вам прыемна прыгадаць з таго часу, калі «Маладосць» рэдагавалі вы?**

– Найперш бібліятэчку часопіса, у якой выйшла больш за 160 кніжак маладых пісьменнікаў. Ну і публікацыі – «Старажытную Беларусь» Міколы Ермаловіча, «Споведзь» Ларысы Геніюш... Калі галоўным рэдактарам «Маладосці» стаў Анатоль Грачанікаў, а я намеснікам, мы тую «Старажытную Беларусь» рыхтавалі да друку амаль патаемна. Але ўсё роўна нас выклікалі ў ЦК КПБ: «Хто рэцэнзент? Такі твор нельга друкаваць без рэцэнзіі!» І я разгубіўся, бо перад гэтым аж дзевяць дактароў навук адмовіліся рэцэнзаваць Ермаловіча. Дамовіліся нарэшце з Міхасём Ткачовым, і твор пайшоў у друк. Вядома ж, праца Ермаловіча ўнікальная. Ён, амаль сляпы чалавек, спаслаўся больш як на 1000 крыніц, каб даказаць сваю канцэпцыю. Ён першы пасля Ластоўскага і Ігнатоўскага вывеў нацыянальную канцэпцыю беларускай гісторыі.

**– Дык гэта Ермаловіч падштурхнуў вас да старажытнай гісторыі?**

– Безумоўна. Мы з ім шмат падарожнічалі па Беларусі, і неяк ён прапанаваў мне напісаць раман пра пачатак Вялікага Княства Літоўскага. Я адмаўляўся: маўляў, я ж не гісторык, мяне гісторыкі задзяўбуць. «А мяне не дзяўбуць?» – насядаў Ермаловіч. Ён натхняў мяне чым мог. Так урэшце і напісаўся «Кліч роднага звона».

### «На сустрэчы са студэнтамі я надпісаў больш за 200 кніг»

**– У шэрагу вашых гістарычных раманаў неяк асобна стаіць кніга «Жар кахання». А ў гэтым жанры вас хто натхняў?**

– Маладыя бібліятэкаркі. Я часта раней выступаў і чуў ад іх: «Беларуская проза такая цнатлівая, яе героі нават пацалавацца як след не ўмеюць!» І я вырашыў напісаць цэлую кнігу пра каханне. Калі яна выйшла, мяне запрасілі ў былы Інстытут замежных моў, дзе студэнты проста закідалі мяне пытаннямі. Я тады больш за 200 кніг надпісаў.

**– Дык вам трэба працягваць гэту тэму!**

– Я здаў у «Мастацкую літаратуру» рукапіс – лепшае з «Жару кахання» плюс новыя творы. Там чатыры раздзелы: першы – пра дзіцячыя нясмелыя пачуцці, другі – пра юнацкае каханне, калі хлопцы дзяўчат не толькі за касу цягаюць, трэці – пра жарснае каханне на ўсю моц, і чацвёрты – хваласпеў сям'і. На жаль, ужо гады тры рукапіс у выдавецтве ляжыць без руху.

**– Калі адштурхоўвацца ад вашай метафары «свой дом», то беларуская літаратура і па сёння застаецца бяздомнай. Дом літаратара дзяржава забрала для сваіх патрэб, мова выштурхоўваецца з сістэмы адукацыі. Ці перажыве гэты складаны час наша літаратура?**

– Ніхто не чакаў, што ў незалежнай Беларусі пачнецца павальная русіфікацыя. Беларуская мова сёння фактычна выціснута з дзяржаўных СМІ, выштурхнута з усіх устаноў – ад дзіцячага садка да рэзідэнцыі прэзідэнта. Нашай літаратуры сёння вельмі цяжка, камусьці хочацца усцягнуць на яе надмагільную пліту. Але ўсё роўна, як ты ні муруй, а жывыя парасткі праб'юцца на свет. У спазнанні чалавечай душы літаратуру нішто не заменіць. Таму яна будзе жыць, пакуль жыве чалавецтва.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Алег ТРУСАЎ:

# «Экспертны савет плануе сабрацца ўжо ў гэтым месяцы»

Нагадаем, што ў сакавіку гэтага года падчас «Вялікай размовы з прэзідэнтам» выконваючы абавязкі рэктара Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча **Алег Трусаў** звярнуў увагу беларускага кіраўніка, што зараз абсалютная большасць законаў выходзіць на рускай мове.

Паводле яго слоў, суддзі нават наймаюць перакладчыкаў, каб разабрацца ў беларускамоўных справах. На думку Алега Трусава, кожны суддзя павінен ведаць дзве мовы. Таксама ён папрасіў Палату прадстаўнікоў і Савет міністраў дубліраваць законы на дзвюх мовах.

– Ужо ёсць пэўныя вынікі той ініцыятывы, якую я агучыў падчас «Вялікай размовы», – кажа Алег Георгіевіч. – Зараз ідзе грунтоўная праца, каб заканадаўчыя дакументы ў нас былі двухмоўныя. З гэтай нагоды створаны экспертны савет, які



планаваў сабрацца ў верасні. Але літаральна на днях мне патэлефанавалі і паведамілі, што першае пасяджэнне адбудзецца ўжо напрыканцы гэтага месяца.

**– Хто ўваходзіць у гэты савет?**

– Дакладна сказаць не магу, бо савет ніводнага разу яшчэ не збіраўся. Але планавалася, што туды будуць уваходзіць самыя вядомыя лінгвісты з Акадэміі навук і Белдзяржуніверсітэта і юрысты, якія беларускамоўны закон будуць канчаткова выпускаць у свет ужо ў якасці афіцыйнага перакладу. Запрасілі таксама мяне і старшыню Таварыства беларускай мовы і дэпутата Палаты прадстаўнікоў Алену Анісім, якая і была ініцыятарам беларускамоўных версій закона.

І тут склалася цікавая калізія. Аказваецца, з 2012 года Нацыянальны цэнтр прававых і заканадаўчых ініцыятыў па ўласнай ініцыятыве ўжо робіць пераклады законаў з рускай мовы на беларускую, і яны ў камп'ютарнай базе ёсць. Але такія пераклады не лічацца афіцыйнымі, і часам, калі нехта з нашых патрыётаў патрабуе беларускамоўны закон, яму такі выдаюць. Але, напрыклад, у судзе такім перакладам карыстацца нельга. А я дабіваюся, каб яны былі афіцыйна прыняты. Прымае Палата прадстаўнікоў закон, і ён адразу павінен быць перакладзены на мову, каб гэтая версія мела стопрацэнтную сілу. На савеце якраз і будзе разглядацца ўсё гэта.

**– Што найперш будзе зроблена?**

– Да канца гэтага года плануецца «запусціць» беларускамоўны Грамадзянскі кодэкс. Тым больш што яго грамадскасць ужо даўно пераклала на беларускую мову. Экспертны савет павінен прыняць нейкі канчатковы афіцыйны варыянт. Пабачым, што атрымаецца, але ўжо прыемна, што працэс пачаўся раней, чым планавалася.

**Алесь СІВЫ.**

ЗА РУЛЁМ

# Спрабаваў адкупіцца 50 рублямі

Інцыдэнт адбыўся ў горадзе Бярозаўка Лідскага раёна, паведамляе УУС Гродзенскага аблвыканкама. Супрацоўнікі ДАІ спынілі аўтамабіль «Нісан». Кіроўца адразу выклікаў у міліцыянераў падазрэнне. Урэшце выявілася, што ў яго крыві было больш за 2 праміле алкаголю.

Тым не менш кіроўца прапанаваў даішнікам залагодзіць канфлікт і перадаў аднаму з іх 50 рублёў. Праўда, у адказ супрацоўнікі ДАІ выклікалі групу рэагавання, і кіроўца «Нісана» быў затрыманы для разбіральніцтва. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па ч.1 арт.413 КК Рэспублікі Беларусь «Дача хабару», магчыма, ён будзе пазбаўлены свабоды.

Высветлілася, што няўдалы хабарадавальнік ужо быў асуджаны па арт.317-1, ч.1 – за ўгон транспартнага сродку.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## У Беларусі зэк амаль не чалавек

У Беларусі немагчыма застрахаваць ад няшчасных выпадкаў людзей, якія адбываюць пакаранне ў калоніях. «Белдзяржстрах» і прыватныя кампаніі адмаўляюцца аказваць гэткую паслугу. Між іншым, у суседняй Расіі застрахавацца могуць нават адпетыя зэкі…

Вядзе ў завоблачную даль
Усіх жыццёвая дарога…
І напаткаць на ёй, на жаль,
Няшчасце можа з нас любога.
Хто нырку выдаліць адну,
Хто пераломіць рэбры, ногі,
А хто і ўляжацца ў труну,
З жыццёвай збочыўшы дарогі.
Цяпер на добрых дактароў
Або на ўласныя хаўтуры
Патрэбна грошай
будзь здароў –
І тым, і гэтым суй купюры.
А іх, купюр, набрацца дзе?
Нішчымніца наспела зноўку…
Каб рады даць сваёй бядзе,
Зараней афармляй страхоўку!
(За заклік правільны такі
Да жыхароў усёй краіны
Хоць штосьці са шчодрае рукі
Мне даць страхоўшчыкі
павінны.)
Ды не для ўсіх ратунак той…
Калі жыццёвая дарога
Спачатку бегла па прамой
І завінула да астрога,
Калі ты хлебчаш баланду,
Хаця ікрой закусваў калісь,
Дык, як рукой, тваю бяду
Не развядзе страхоўкі поліс.
Яго папросту не прадасць
Табе належная кантора,
Бо ёй кліент такі не ў масць –
З табою, лічыць, цяпне гора.
Якая сёння ў нас турма,
Як пажываюць нашы зэкі?
Спагады ад «сваіх» няма,
Яшчэ й начальства чыніць здзекі,
Глядзіць на зэкаў як на хлам.
Там мулка спіцца, дрэнна есца,
І, безумоўна, можна там
Зламаць нагу на роўным месцы
Ці атрымаць «у бок пяро»
(Сказаў, прабачце, на жаргоне),
Бо зло і рэдкае дабро
Заўжды ў адным клубку
на «зоне».
І калі гэты кантынгент
Гурмой на полісы падсядзе,
Канторы разарацца ўшчэнт,
Банкруцтва ў іх на далягдядзе.
Ніхто ў канторах не дурны,
Прынамсі, гэтак лічаць самі.
Таму, разумнікі, яны
Сядзельцаў «у архіў спісалі».
* * *
Я ж смеласць на сябе вазьму
Сказаць ( і то не будзе здзекам):
Таго, хто трапіў у турму,
У нас не лічаць чалавекам…

ПАМЯЦЬ

# …Сваю Беларусь баранілі яны

Гэтую легенду пра вёску Боні я чула яшчэ ў дзяцінстве ад сваёй бабулі Агрыпіны Масееўны Глушаковай, якая адтуль родам.

Калісьці, у сівую даўніну, у лясной глушы на месцы, дзе зліваюцца рачулкі Грэбля і Зубр, узнікла невялікае паселішча. У найпрыгажэйшай мясціне, дзе была незлічоная колькасць крыніц, нараджаліся моцныя і дужыя людзі – да ста гадоў дажывалі. Юнакі былі сапраўдныя волаты. Такіх ахвотна бралі ў войска. Падчас вайны з французамі хтосьці з мясцовых хлопцаў трапіў на службу да Кутузава. Адтуль і пайшлі ў вёсцы Кутузавы, ды і сама назва вёскі Боні гучыць неяк на французскі лад: «bon» – добры, лагодны, сардэчны.

Магчыма, яно і не так было, але ж па сённяшні дзень і назва вёскі захавалася, і прозвішча Кутузавы – таксама.

У наш час можна і дакладней даведацца пра гэтыя Боні, нават па інтэрнэце, толькі такой спакусы ў мяне ніколі не было і няма. Навошта разбураць той дзіцячы казачны міф, што падаравалі мне мае продкі?

А яшчэ ў вёсцы былі вельмі прыгожыя дзяўчаты. Хлопцы з навакольных вёсак шукалі сабе нявест, прыгожых і працавітых, менавіта ў Бонях. Так мая бабуля са сваёй сястрой Параскай апынуліся ў суседняй вёсцы Журбін. Адна пайшла замуж за георгіеўскага кавалера, удзельніка Першай сусветнай Аляксея Мінчанку, другая – за майго дзеда Дзмітрыя Тараруху, таленавітага шаўца, які пашываў боты на ўсё наваколле.

Сёстры карысталіся павагай сярод людзей. Абедзьве валодалі дарам лячыць народнымі сродкамі, былі і шаптухамі, і павітухамі. І ўсё гэта ад іх бацькоў. Прадзед мой Масей валодаў гіпнозам. Нават мог бараніць свойскую скаціну, заклінаць вужоў, калі, няпрошаныя, яны запаўзалі ў хлявы і выдойвалі кароў, абвіўшы нагу жывёліны,. Дзіва дзівоснае па сённяшнім часе!

Шмат вякоў праляцела над гэтым кавалачкам роднай зямлі. Спачатку ён уваходзіў у Вялікае Княства Літоўскае, потым належаў Расійскай імперыі, быў ускраінай Савецкага Саюза. З пакалення ў пакаленне людзі аралі зямлю, расцілі хлеб, гадавалі дзяцей.



Іван Мікалаевіч Мілінкевіч, бацька Ларысы Канаплёвай, у першым радзе першы злева.





Сястра і брат Глушаковы – Алена Ніканаўна і Яфім Ніканавіч – у мірны час.



Яфім Ніканавіч Глушакоў (злева) на фронце.



Панцялей Ніканавіч Глушакоў, мічман Чарнаморскага флоту (злева) з сябрам Саахавым.

Але не абмінулі гэты край французская навала, ваенныя і рэвалюцыйныя падзеі пачатку XX стагоддзя, вайна з фашысцкай Германіяй.

На абарону Радзімы паўстала ўся Беларусь, у тым ліку і мае землякі з невялічкіх вёсачак Боні, Журбін і многіх іншых. Змагаліся і Кутузавы, і Глушаковы, і Крывашэевы…

З адной толькі сям'і бабулінага брата Нікана з Боняў пайшлі на фронт чацвёра. У сямейным альбоме захавалася нямала франтавых здымкаў маёй радні.

Вось старэйшы сын Нікана Масеевіча – Панцялей. Мічман Чарнаморскага флоту, камандзір артылерыі на лодцы «Красный Кавказ». Да прызначэння на карабель ваяваў у марской пяхоце, удзельнічаў у высадцы дэсанта ў раёне Новарасійска, а перад вайной у 1939 годзе ўдзельнічаў у баях ля возера Хасан і на Ханхін-голе. Узнагароджаны медалямі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За вызваленне Каўказа», «За перамогу над Германія». Вярнуўся моцна паранены дамоў, а тут яго чакала страшная навіна – загінуў яго першынец, сын Валодзя. 14-гадовы юнак, памочнік машыніста паравоза на станцыі Унеча, трапіў пад бамбёжку варожай авіяцыі. Другі сын Панцялея Іван, як і бацька, стаў мараком. Капітан I рангу, жыве ў Калінінградзе.

Вельмі моцны фізічна і надзвычай смелы быў другі сын (прыёмны) дзеда Нікана – Афанасій. Усю вайну прайшоў сувязістам, не раз быў на валаску ад смерці. Лёс пашкадаваў яго. Пасля вайны працаваў выкладчыкам ваеннай падрыхтоўкі ў тэхнікуме ў Клінцах.

Трэці сын – Яфім – усю вайну таксама быў на фронце і вярнуўся дамоў аж з Порт-Артура. Пасля вайны, будучы ўжо сямейным чалавекам, скончыў Мінскі медыцынскі інстытут і ўсё жыццё працаваў у Касцюковіцкай раённай бальніцы ўрачом-тэрапеўтам. Тут жа працавала ў хірургічным аддзяленні і яго жонка Вольга Яфімаўна, з якой яго звёў ваенны лёс на Далёкім Усходзе, дзе яна была шафёрам разам з ім у медсанбаце.

Ваенфельчарам прайшла праз усю вайну дачка дзеда Нікана – Алёна. Пасля вайны выйшла замуж і да канца сваіх дзён жыла ў Марыупалі. Ад яе на радзіму заўсёды прыходзілі цёплыя і пяшчотныя пісьмы – сумавала па сваіх Бонях.

Пасля моцных кантузій вярнуліся сыны сясцёр Нікана Масеевіча. Праскоўя Масееўна прывезла са шпіталю ў Журбін свайго 17-гадовага сына Колю без нагі. Другі сын, Леанід, страціў на вайне слых на адно вуха і зрок на адно вока. Ужо ў мірны час скончыў у Волагдзе Інстытут мяса-малочнай прамысловасці і працаваў у Арэнбургу галоўным інжынерам масласырзавода.

Яго сястра Марына радавой медсанбата дайшла да Берліна і там нечакана ля Брандэнбургскіх варот сустрэлася з братам Леанідам. І здараецца ж такое!

Скончылася вайна. Да вялікай радасці, у 1946-м вярнуўся дадому мой бацька, Іван Мікалаевіч Малінковіч, які з першага да апошняга дня вайны быў у дзеючай арміі. Спачатку на Волхаўскім фронце, потым дайшоў да Порт-Артура.

Не прыйшоў з вайны Рыгор Трыфанавіч Канаплёў, бацька майго мужа Анатоля Рыгоравіча. Ён пахаваны ў брацкай магіле пад Курскам, а для нашых унукаў застаўся толькі передваенны здымак, на якім іх малады дзядуля, якога яны ніколі не бачылі, грае на гармоніку.

Мінаюць гады, час развітвае мяне з многімі-многімі роднымі, землякамі. Але памяць нагадвае пра іх ледзь не кожны дзень. Яны зрабілі ўсё, каб на роднай зямлі быў мір.

**Ларыса КАНАПЛЁВА,**
**родам з Касцюковіцкага раёна.**

ПРОШУ СЛОВА!

## Как понимать?

Здравствуй, уважаемая «Народная Воля»!

Прочитал, что новый министр здравоохранения решил серьезно взяться за тех, кто необоснованно повышает цены на лекарственные средства. Он просит: если кто-то купил лекарство за границей и оно там намного дешевле, чем у нас, пусть доведет такую информацию до его ведомства, с тем чтобы можно было, проанализировав, вести принципиальный разговор с поставщиками данных препаратов. Мол, нельзя на жизненно важные лекарственные средства устанавливать цены с потолка.

А что пока на деле? 15 июня я купил в аптеке №74 «Эссенцикапс» отечественного производства (50 капсул) за 5 рублей 12 копеек, а уже 29-го числа такая же упаковка обошлась мне в 5 рублей 38 копеек. Объявили войну подорожанию импортных лекарств, а цены на свои постоянно растут. Как понимать?

**Леонид Александрович ХОДАН,**
**житель Минска.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Тэлефануйце Фёдару Рымашэўскаму

У рэдакцыю газеты «Народная Воля» паступае шмат лістоў ад жыхароў сталіцы. Многія з іх няма сэнсу друкаваць, паколькі яны закранаюць нязначныя пытанні, разгляд якіх адносіцца да кампетэнцыі чыноўнікаў гарадскіх улад. Таму раім звярнуць увагу на тое, што пры Мінгарвыканкаме і раённых адміністрацыях працуюць «прамыя тэлефонныя лініі», па якіх можна выйсці на сувязь з тым ці іншым адказным службоўцам. Так, заўтра, 13 ліпеня, з 9.00 да 12.00 па тэлефоне 222-44-44 можна будзе пагаварыць з першым намеснікам старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта Фёдарам Віктаравічам Рымашэўскім.

А вось нумары тэлефонаў, па якіх у гэты ж час можна будзе звязацца з адказнымі асобамі адміністрацый:

Заводскага раёна – 328-26-09,
Ленінскага – 223-56-22,
Маскоўскага – 200-11-01,
Кастрычніцкага – 220-58-32,
Партызанскага – 285-36-16,
Першамайскага – 357-05-14,
Савецкага – 292-80-82,
Фрунзенскага – 216-81-74,
Цэнтральнага – 306-42-93.

ТАК ЛІЧУ…

## Трэба забараніць выгульваць сабак па вуліцах

Вы можаце ўявіць, каб у Парыжы ці Лондане гаспадары сабак выгульвалі іх па вуліцах? Калі б там хто-небудзь з жыхароў дазволіў сабе такое, атрымаў бы такі штраф, што яго кішэня адразу апусцела б. Ды і грамадскае асуджэнне кіпела б ад эмоцый.

А ў нас, я лічу, з выгульваннем сабак па вуліцах поўная свабода. Еду днямі раніцай на работу, а на абочыне дарогі сівы дзед чакае, калі яго аўчарка зробіць сваю справу. Вядома ж, ён і не падумаў узяць з сабой скрабок і тару для таго, каб сабраць з травы ўсё тое, што пакіне сабака.

Хочам, каб у нас вакол было чыста, акуратна, – давайце разам з уладамі вырашым і гэтую праблему. Сваё слова тут павінны сказаць як заканадаўцы, так і шырокая грамадскасць.

**Рыгор МІШУК,**
**навуковец.**



РЭЗАНАНС

## Я – за цеснае супрацоўніцтва школ з музеямі

У «Народнай Волі» за 25 чэрвеня Аляксандр Фядута ўзгадаў маё выказванне ў «Фэйсбуку» пра мядзельскі музей гісторыі школы імя У.Дубоўкі, які з'яўляецца самастойным аддзелам мясцовага Музея народнай славы. Я сапраўды занепакоена тым, што да працы школьнага музея не маюць дачынення настаўнікі і вучні, а з-за таго, што змянілася падпарадкаванне, абмежаваўся ў нейкай ступені доступ наведвальнікаў.

Заўважу, гэта адзін з найлепшых школьных музеяў Беларусі. Запачаткаваў яго некалі заслужаны настаўнік БССР Кастусь Каратай. Сёння музей мае сем паўнавартасных музейных залаў, выдатна аформленых, з цікавымі экспанатамі: дакументамі, фотаздымкамі, асабістымі рэчамі герояў, артэфактамі. Асаблівая каштоўнасць музея – тры залы, прысвечаныя Уладзіміру Дубоўку. Ніводная музейная экспазіцыя краіны сёння не можа пахваліцца такой колькасцю рэчаў паэта, выстаўленых для наведвальнікаў: тут касцюм і кашуля Дубоўкі, паясы і партфель, перакідны каляндар і канцылярскія прылады, арыгіналы і копіі асабістых дакументаў, рэдкія фотаздымкі. Вялікая колькасць экспанатаў была перададзена мядзельцам Алесяй Бабарэка – дачкой Адама Бабарэкі, якая апекавалася памяццю пра бацькавага сябра да самага скону.

Я даўно знаёма з гэтым музеем, часта бываю ў ім, вазіла сваіх вучняў і турыстаў. І мне сапраўды хочацца, каб музей жыў паўнавартасным жыццём.

*«І нельга сказаць, што ён не жыве!* – кажа дырэктар мядзельскага Музея народнай славы **Наталля Міхайлаўна Бурак**. – *Так, мы не можам дазволіць бескантрольны доступ у музей – вы самі бачылі, якія там каштоўныя экспанаты. Таму, безумоўна, ключы ад школьнага музея знаходзяцца ў нас. Між тым мы адчыняем музей па любых просьбах – і для індывідуальных наведвальнікаў, і для арганізаваных груп. Вы і самі ведаеце: апошні раз вы прыехалі ў нядзелю позна ўвечары, і наша супрацоўніца прыйшла ў свой вольны час, адчыніла памяшканне і была з вамі столькі, колькі вам спатрэбілася. Так мы робім з усімі, хто жадае паглядзець экспазіцыю. Акрамя таго, і самі ладзім экскурсіі. На жаль, нашы супрацоўнікі не маюць права весці школьны гурток. Ёсць вучні, якія праводзяць экскурсіі, чытаюць вершы Дубоўкі (такія экскурсіі праводзяцца не кожны раз, а для гасцей раёна, школы і па звароце). Жыццё музея як установы – няпростае: на нас ляжыць вялікая адказнасць як матэрыяльная, так і духоўная. Але мы імкнёмся якасна рабіць сваю справу – і робім яе».*

Я пагаджаюся з Наталляй Міхайлаўнай. Я даўно і шчыльна сябрую з музейшчыкамі і ведаю, як насамрэч складана ім працуецца, ведаю таксама, што сярод іх не бывае выпадковых людзей – сфера культуры ў нас, мякка кажучы, небагатая, тут затрымліваюцца толькі энтузіясты сваёй справы. І мне не хацелася б пакрыўдзіць менавіта музейшчыкаў: ніхто з іх не заслужыў крытычных слоў у свой адрас.

Але ж я хачу, каб школы больш шчыльна супрацоўнічалі з музеямі, каб кіраўніцтва раённай адукацыі знаходзіла магчымасць аплачваць працу кіраўнікоў школьных гурткоў пры музеях, каб былі распрацаваны жыццяздольныя механізмы супрацоўніцтва школы і музея, каб не перасыхала крыніца памяці і праўды, натхнення і спрычыненасці да культуры, жывая крыніца беларушчыны – школьны музей.

**Ганна СЕВЯРЫНЕЦ,**
**настаўніца, даследчыца беларускай літаратуры, пісьменніца.**

АД АЎТАРА

## …І іх жыццё набудзе новы сэнс

Газета з маёй калонкай выйшла ў аўторак, а ўжо ў сераду – так здарылася – шмат людзей абмяркоўвалі сітуацыю вакол сённяшніх (і былых) школьных музеяў. На мяне выйшлі два дырэктары дзяржаўных музеяў, гісторык, некалькі школьных і ўніверсітэцкіх выкладчыкаў. Ніколі не думаў, што тэма, узнятая Ганнай Севярынец, будзе ўспрымацца грамадскасцю так балюча. Магчыма, таму, што ўсе мае субяседнікі альбо мелі дачыненне да патрыятычнага выхавання, альбо і дагэтуль маюць. І разумеюць: патрыятызм – не толькі веданне таго, як трымаць у руках зброю, але ж і разуменне, **што** трэба бараніць. А трэба бараніць Радзіму – не толькі тэрыторыю, але ж і культуру, і мову, і ўсё тое, што называецца духоўнай спадчынай народа.

Ганна Севярынец цытуе словы дырэктаркі мядзельскага Музея народнай славы Наталлі Бурак: «На жаль, нашы супрацоўнікі не маюць права весці школьны гурток». А чаму? Хто, як не музейныя супрацоўнікі, людзі адукаваныя і падрыхтаваныя, могуць навучыць дзяцей пошуку матэрыялаў па гісторыі роднага краю, іх захоўванню? Зразумела, не ўсе гэтыя дзеці пасля пойдуць працаваць у школы, і ва ўстановы культуры. Але ж будзе створаны ланцужок памяці. І праз гады селянін, рабочы, інжынер, бізнесмен, святар, працаўнік гандлю, дзяржаўны службовец, мытнік, вайсковец, пенсіянер будуць помніць пра тыя ўрокі любові да Радзімы, якія атрымаюць у дзяцінстве.

Што для гэтага трэба зрабіць? Звесці «профільнага» намесніка міністра культуры з «профільным» намеснікам міністра адукацыі, каб яны селі за адзін стол і абмеркавалі гэтую тэму? Бо справа – не ў адным музеі на Мядзельшчыне. Справа ў тым, як ідзе выхаванне новага пакалення беларусаў. Якія прыклады даюць ім дарослыя. Уладзімір Дубоўка – не толькі геніяльны паэт, але ж і няломны патрыёт, сапраўдны мужчына. Дазвольце дзецям дакрануцца да ягонага жыцця – і ўбачыце, што іх уласнае жыццё набудзе новы сэнс. Той сэнс, які патрэбны і ім, і нашай дзяржаве.

Актыў школьных музеяў не можа быць абыякавым да лёсу Бацькаўшчыны – дык пашырайце гэтае кола, а не звужайце яго! Вазіце школьнікаў на экскурсіі не толькі з Мядзельшчыны, але ж з усёй Мінскай вобласці, з усёй Беларусі! Водгук у дзіцячых сэрцах будзе – калі да працы падысці нефармальна.

Спадзяюся, што мы дачакаемся рэакцыі на гэту дыскусію і ад Міністэрства культуры, і ад Міністэрства адукацыі. Бо хто яшчэ ў адказе за лёс школьных музеяў?

**Аляксандр ФЯДУТА,**
**лаўрэат прэміі камсамола Гродзеншчыны ў галіне педагагічнай дзейнасці, кавалер «Знака Гайдара» ЦК УЛКСМ.**

ФЕСТИВАЛЬ



# Звезда Таисии Повалий появилась в Витебске

*Известная эстрадная певица, обладательница первого Гран-при в истории конкурса молодых исполнителей на «Славянском базаре», в этом году удостоена награды А.Лукашенко «Через искусство – к миру и взаимопониманию».*

Вчера именная плита народной артистки Украины появилась на Площади звезд возле Летнего амфитеатра в Витебске.

*«Для меня это знаковое событие*, – цитирует belta.by Таисию Повалий. – *Беларусь – моя творческая родина. Я так искренне считаю. «Славянский базар», Витебск открыли для меня двери на большую сцену. В то время я просто пела для себя, не чувствовала, что могу достичь чего-то невозможного. Но тогда на фестивале у меня словно выросли крылья. Я просто купалась в удовольствии. Загорелась душа, а сердце разрывалось от счастья, что я на таком фестивале. То, что я получила первый Гран-при в истории «Славянского базара» – это, наверное, божий дар. Только выйдя из вагона на перрон в Киеве, я поняла, что прославилась. Встречали меня с цветами…»*

Присуждение специальной награды А.Лукашенко артистка считает знаком того, что в ее жизни снова должен произойти какой-то важный виток.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

# Эдуард Ханок планирует пригласить Таисию Повалий… в суд

Артистка без разрешения композитора в минувшем году на празднике «Купалье» в Александрии спела старый суперхит «Біля млына калина» на его музыку. Причем тогда Повалий пела не одна, а вместе с Александром Лукашенко – она протянула ему микрофон, и он вместе с ней исполнил куплет на украинском языке.

*«Она пела эту песню на белорусской земле, где живет автор музыки, но меня при этом даже не объявила!* – говорит Эдуард Ханок. – *Хотя при этом Повалий активно пиарит других авторов своих песен. Разрешения на исполнение песни она у меня не спрашивала. Это нарушение моих прав, моего права на имя».*

В этом году Эдуард Ханок тоже едет на «Славянский базар». Он участвует в сольном концерте белорусской звезды Ирины Дорофеевой. Не исключено, что Ханок и Повалий в Витебске за чашкой кофе обговорят все спорные моменты.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ОСОБЕННАЯ

# Самая умная

*Найдена самая умная девочка в мире – у 13-летней британской школьницы IQ выше, чем у Эйнштейна и Хокинга…*

Первые годы жизни Сурьянши Ранджан провела в Индии и уже там показывала уникальные способности к обучению: рано начала говорить, в три года обыгрывала в шахматы взрослых, в четыре бегло читала, а в начальной школе требовала у учителя задания посложнее, чтобы не скучать.

– Изначально мы немного опасались, – признается отец юного гения. – Мы хотели, чтобы у нее было нормальное детство, но будто жили со взрослым человеком: она никогда не играла в куклы, все ее игрушки были развивающими.

Позже Сурьянши вместе с семьей переехала в британский Кингстон, где сдала экзамены сразу в 13 школ. А недавно девочка прошла в Mensa, организацию для людей с высоким коэффициентом интеллекта, сдав два суперсложных теста. Ранджан набрала 162 балла – у физиков Альберта Эйнштейна и Стивена Хокинга результат на 2 балла ниже, а средний показатель в мире – 100.

Но хотя Сурьянши и говорит, что горда присоединиться к клубу самых умных людей планеты, мечтает она стать поп-звездой.

– Меня вдохновляет Адель, – признается подросток. – В ее музыке так много эмоций! Я бы хотела писать песни, как она.

Ну что ж, может, когда-нибудь мировую сцену покорит высокоинтеллектуальная певица. Как пела Адель: «Don't underestimate the things that I will do» – «Не недооценивай то, что я могу сделать».

Хотя, на наш вкус, лучше бы девочка занималась наукой на пользу цивилизации. А то поп-звезд и так хватает…

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

# Чего ждать Беларуси от нового президента Литвы?

*Сегодня, 12 июля, состоится инаугурация президента Литвы Гитанаса Науседы, который одержал убедительную победу на выборах в мае.*



Накануне «Салідарнасць» побеседовала с политологом, преподавателем Института международных отношений и политических наук Вильнюсского университета **Витисом Юрконисом**, чтобы узнать, как экономист банка стал главой государства и что теперь изменится в литовско-белорусских отношениях.

**– Для Литвы уже в известной степени традиция, что президентом избирается независимый, а не партийный кандидат. Но все же Валдас Адамкус и Даля Грибаускайте были включены в политическую систему, а Гитанас Науседа пришел на пост главы государства с должности главного экономиста банка. Как это стало возможно?**

– Довольно просто. Для литовцев на президентских выборах беспартийность кандидата – большой плюс. Науседа во время своей кампании старался ни с кем не ругаться, избегал острых ситуаций – в отличие от своего основного конкурента Ингриды Шимоните.

Надо также отметить, что как Адамкуса, так и Грибаускайте невозможно назвать партийными кандидатами. И они довольно разные по характеру и стилю президентства.

Адамкус был по своему имиджу такой объединяющий президент, и Науседа в этом старается быть похожим на него. А Грибаускайте критиковала партии и политиков. Может быть, у избирателей накопилась некоторая усталость от такой жесткой линии, и появилось желание видеть президентом кого-то более консолидирующего. На этом фоне Науседа стал лидером и выиграл гонку.

**– Говорит ли поражение партийных кандидатов на президентских выборах о кризисе традиционных политических сил?**

– Нет, не особо. Чисто партийным кандидатом, который выиграл президентские выборы в Литве, был Альгирдас Бразаускас. Но президент у нас не может быть партийной фигурой, так что и Бразаускас приостановил тогда свое членство в социал-демократической партии.

Есть в Литве такая особенность президентских выборов: тут партийным кандидатам сложнее. Так что по итогам президентских выборов судить о кризисе традиционных политических сил вряд ли правильно. Некоторые партии имеют довольно стабильную поддержку и лояльный электорат.

Но тревожные сигналы для традиционных партий можно было увидеть весной во время местных выборов. Особого доверия партиям действительно нет. Во время каждых парламентских выборов можно видеть новых игроков. Есть протестное голосование, в последние пару лет можно наблюдать раскол на либеральном и социал-демократическом флангах и т.д.

Несмотря на все это, картинка неровная, и если смотреть динамику голосования и поддержки основных партий в последние несколько лет, то объявлять катастрофу для них было бы из области истерики. Хотя некоторые выводы партиям надо сделать, например, по поводу поддержки в регионах.

**– На старте любой избирательной кампании у профессиональных политиков есть как минимум одно преимущество – структура. Выборы – это ведь не просто выйти и сказать пару красивых слов, но еще и много организационной работы. Как Науседе удалось провести полноценную кампанию, учитывая, что он стартовал, не имея своей организации?**

– У Науседы было много волонтеров, которые, несмотря на отсутствие партийной структуры, работали хорошо и объехали много городов. В его кампании был сбалансированный подход насчет онлайн и оффлайн-агитации: команда кандидата не только использовала для этого социальные сети и медиа, но и встречалась с людьми.

Плюс к этому надо сказать, что Гитанас Науседа уже был публичной фигурой с высокой узнаваемостью. И ему удалось перехватить поддержку в регионах у премьер-министра Саулюса Сквернялиса.

Плюс, как говорилось выше, то, что Науседа непартийный кандидат, стало огромным преимуществом, особенно во втором туре.

Совокупность этих факторов привела к довольно убедительной победе Науседы. Интересно, а вернее сказать печально, что некоторые после 10 лет правления Грибаускайте говорили, что уже надо выбрать мужчину.

**– Даже так?**

– Да. Ну что, будет и первая леди…

**– Можно ли уже говорить о том, какими будут первые шаги Гитанаса Науседы на посту президента?**

– Пока не полностью сформирована команда Науседы, и это осложняет прогнозы насчет того, какая политика будет. Известно лишь, что первый визит новый президент нанесет в Польшу, что, безусловно, очень хорошо – для Литвы это важная страна и исторически, и политически.

**– А чего Беларуси ждать от президента Науседы, особенно с учетом того, что в скором времени планируется запуск АЭС в Островце, которая является очень больным вопросом в двусторонних отношениях?**

– Тема АЭС хотя и доминирует в медиапространстве, но не является единственной в отношениях Литвы и Беларуси. Есть ряд положительных моментов. Наши страны успешно торгуют друг с другом. Запущен первый большой твининг-проект ЕС, в котором принимают участие национальные банки обеих стран.

Литовский бизнес заинтересован в Беларуси и делает существенные инвестиции. Клайпедский порт, Литовские железные дороги, весь транзит – сотрудничество по этим направлениям есть, и потенциал еще не исчерпан. Не говоря уже о туризме и человеческих отношениях.

Имея в виду агрессивную политику Кремля в регионе, я думаю, что наша общая история – ВКЛ – имеет большое значение в плане формирования белорусской идентичности. Поэтому Международный конгресс исследователей Беларуси, который состоится в Вильнюсе в сентябре, и сотрудничество академического экспертного сообщества также представляют интерес. Так что есть с чем работать – вне зависимости от нового президента.

Роль лакмусовой бумажки, определяющей текущее состояние отношений, сыграет, по моему мнению, перезахоронение останков Кастуся Калиновского и других повстанцев, намечающееся на осень. Уверен, что будет попытка пригласить официальную белорусскую сторону.

По большому счету, давно возник вопрос: десять лет назад Литва активно лоббировала сближение Беларуси с Европой, а какие были добрососедские шаги белорусской стороны по отношению к Литве? Тот самый Островец? Может быть, кому-то кажется, что Беларусь всего лишь была инструментом России, но для Литвы это не звучит как оправдание.

Вспомним, например, малое приграничное движение. Литва договор подписала, а мяч застрял на белорусской стороне. Она тормозит процесс, несмотря на то, что поезда Минск–Вильнюс полные, то есть потребность в соглашении у белорусского населения есть.

Что касается Островца, то белорусские власти должны понять: литовский парламент принял закон, мы не будем покупать электроэнергию с АЭС и не позволим пользоваться для ее транзита инфраструктурой, которая есть в Литве.

И здесь вряд ли стоит ожидать изменений, поскольку и правящая партия, и оппозиция рассматривают атомную электростанцию в Островце как угрозу.

А в других сферах мы увидим позитивную динамику, если только белорусская сторона будет этого желать. И подкрепит свое желание реальными шагами, а не только риторикой и декларациями.

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# Почему Варшава желает так усиленно вооружаться?

В Польше американцы смогут, если договоренность будет реализована, разместить эскадрилью беспилотников MQ-9, а число их солдат при этом вырастет с 4,5 до 5,5 тысячи. Речь идет и о строительстве нового военного аэродрома. Поляки хотят построить у себя еще и военную базу (ей уже придумано название – «Форт Трамп»). За свой счет. Хотя, если точнее, за счет Евросоюза, от которого Варшава получает 20 миллиардов евро дотаций в год.

Зачем Польше столько американских войск? Неужели поляки всерьез считают, что Россия может начать войну с ними?

Многие поляки действительно считают, что такая вероятность велика. Польские граждане воспитаны на истории длительного противостояния между Польшей и Россией. Для них Россия – это старый недруг, с которым они воевали шесть столетий подряд и который последние 200 лет с небольшим перерывом держал их страну «в оккупации». И никакие попытки со стороны Российской Федерации убедить их в обратном не изменят этой точки зрения.

С другой стороны, есть польские аналитики. Они полагают, что в случае возникновения некоего мирового кризиса (например, в Сирии или Добнассе) может начаться эскалация конфликта между Россией и США, которая способна затронуть и страны Балтии с Польшей.

Наконец, и российские военные, и военные стран НАТО составляют планы на случай отражения обоюдной военной агрессии. Это их работа – купировать все возможные угрозы безопасности. Но когда эти планы доходят до политиков и СМИ, под перьями журналистов и в речах популистов эти теоретические угрозы быстро приобретают реалистичные очертания. Что способствует нагнетанию истерии в обществе, хотя понятно, что ни Россия, ни НАТО друг на друга нападать не собираются.

Вот и получается, что для поляков американская база на их территории – это гарантия защиты.

Впрочем, американцы пока не готовы тратить деньги на содержание значительного военного контингента в Польше. Наоборот, речь идет о сокращении расходов на оборону на восточном фланге НАТО. Основные военные ресурсы США все больше перенаправляются на границу с Китаем.

Будет ли в итоге построена военная база в Польше, во многом зависит от ситуации в Донбассе, в Крыму, в Керченском проливе. Если там случится новый крупный кризис, не исключено, что поляки все-таки пролоббируют строительство «Форта Трампа»…

**Алексей АРБАТОВ, руководитель Центра международной безопасности ИМЭМО РАН.**

livejournal.com/aif.ru

СЛЫШАЛИ?

# Зеленский предлагает превратить Чернобыльскую зону в одну из точек роста для новой Украины

*«Я подписал указ, который станет началом превращения Зоны отчуждения в одну из точек роста для новой Украины», – цитирует Зеленского interfax.by.*

*Зеленский отметил, что сначала будет создан «зеленый коридор» для туристов и сняты предпосылки для коррупции.*

«Больше не будет огромных очередей на КПП и внезапных отказов в посещении зоны, о которых человек узнает, уже приехав на пункт пропуска», – сказал он.

Зеленский также подчеркнул, что не будет больше «запретов снимать видео и других подобных глупостей».



«Давайте наконец прекратим отпугивать людей, посетителей, превратим зону отчуждения в научный и будущий туристический магнит. Сделаем тут землю свободы, которая станет одним из символов новой Украины – без коррупции и глупых запретов, с инвестициями и будущим. Сделаем это вместе, вместе с вами», – заявил он.

ЗАКУЛИСЬЕ

## Путин не против идеи Зеленского

Президент России Владимир Путин заявил, что он готов к переговорам по Украине в любом формате, но встреча может состояться тогда, когда в Киеве будет сформировано правительство.

Такова реакция В.Путина на предложение В.Зеленского провести встречу в Минске с участием лидеров ФРГ, Франции, США и Великобритании.

ЧУДЕСА!

## Снег в июле

В румынских Карпатах впервые в июле выпал снег. Осадки зафиксировали на горе Пьетрос на высоте 2300 метров.

Мэр города Борша Сорин Тимиш сообщил журналистам, что не помнит, чтобы снег выпадал в июле. «15 лет назад в августе был снег на горе, но не в июле», – сказал Тимиш.

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 ЛІПЕНЯ 2019 г.

БИЗНЕС



# Сергей ГАЙЧУК: «Я с удовольствием занимаюсь своим бизнесом»

*Почему профессиональная белорусская косметика для волос производится в Италии? Об этом «Народной Воле» рассказал генеральный директор компании «Милонда» Сергей Гайчук.*

### Из личного дела

Сергей Гайчук – воспитанник Суворовского училища. Окончил Институт народного хозяйства по специальности «Экономика, организация и планирование материально-технического снабжения», в 1990-е годы работал заместителем директора предприятия «Белбыткомплект». Его задачей было обеспечивать парикмахерские всем необходимым для работы. После развала СССР пришлось уволиться – возобновить работу в новых условиях на прежнем профессиональном уровне было уже невозможно. Однако Сергей Гайчук к тому времени очень хорошо знал индустрию красоты, поэтому принял решение остаться в ней и основать свою компанию. Так «Милонда» стала первым в Беларуси частным предприятием в сфере профессиональной косметики для волос.

В этом году Сергей Гайчук стал лауреатом престижной премии «Человек Дела» в номинации «За создание и продвижение нового отечественного бренда профессиональной косметики для волос sergio professional».

Идея создания первого отечественного бренда профессиональной косметики для волос была подкреплена масштабным маркетинговым исследованием. За долгие годы работы в компании собралась серьезная аналитика, которая помогла определить, какого именно продукта не хватает потребителю. Кроме того, была нужна доступная цена и достойный уровень качества.

– Бизнес в сфере красоты сильно зависит от материального благополучия клиентов, – *отмечает Сергей Гайчук.* – Для нового бренда мы подбирали состав, учитывая ценовую нишу. Мы добились очень хорошего качества. Экономически обусловлен факт производства бренда в Италии на заводе, который на сегодняшний день является лидером в создании косметических средств. Благодаря этому удалось выпустить именно тот продукт, который нужен рынку.

Идея создания собственного бренда пришла довольно давно, просто не было для этого условий. Наш рынок заполонен зарубежными торговыми марками, которые, во-первых, довольно дорогие, а во-вторых, не всегда подходят под структуру волос белорусок.

*У Сергея Гайчука была идея построить собственный завод по производству косметики, но сейчас это экономически не оправдано.*

– Производим пока все в Италии, – *говорит он.* – Но есть надежда, что со снижением себестоимости, возможно, откроем производство в Беларуси.

**– Почему пока выгоднее иметь производство в Италии?**

– Сегодня даже из известных производителей косметики для волос, таких как Wella, Loreal, Schwarzkopf, мало кто имеет свое производство. В основном все это производится на специализированных больших предприятиях, где делают косметику для волос для всех торговых марок. Сегодня пол-Европы производит косметику для волос в Италии. И мы не исключение. Просто нужно подобрать нишу, ассртимент и количество продукции, которое может переварить белорусский рынок. В этом смысле сегодня итальянцы впереди планеты всей.

По нашему заказу и нашей рецептуре все производится в Италии и поставляется на белорусский рынок.

**– А в Италии продается белорусская косметика?**

– Нет. Хотя она отвечает всем стандартам европейского качества, имеет европейские сертификаты. Для того чтобы выйти на европейский рынок, нужно проводить серьезную маркетинговую подготовку. Наша задача – насытить белорусский рынок профессиональной косметикой. Надеемся, когда-нибудь белорусская косметика будет продаваться и в Италии.

**– Вы работаете с частными салонами? Вряд ли у вас закупаются «восходовские» парикмахерские, у них иногда самого элементарного нет в наличии…**

– Нам нет разницы, с кем работать. Сегодня, наверное, процентов 95 предприятий, оказывающих населению парикмахерские услуги, являются частными. На мой взгляд, давно пора было ликвидировать государственную собственность в этом сегменте. Частные парикмахерские более приспособлены для применения различных новинок.

**– Сегодня в салоны красоты инвестируют не белорусские бизнесмены, а российские. И владелец «Восхода» – российский предприниматель. Национальный бизнес не интересует индустрия красоты?**

– Насколько я знаю, сегодня «Восход» влачит жалкое существование. Там волей случая все досталось россиянам, предприятие несколько раз перепродавалось… Но, по-моему, большой разницы нет, кому принадлежит предприятие. Главное, чтобы она работало и оказывало услуги, доступные по цене, и чтобы клиенты были довольны качеством.

Мне приятно работать в индустрии красоты. У меня счастливый случай: я с удовольствием занимаюсь своим бизнесом, и это дело позволяет мне содержать семью. Наверное, это своего рода джек-пот…

**Марина КОКТЫШ.**

ТУРЫЗМ-2019

# Лілія КОБЗІК: «Ад Еўрапейскіх гульняў–2019 беларускі турызм толькі выйграў»

*«На спаборніцтвы Еўрапейскіх гульняў – 2019 у Мінску было прададзена 213 тысяч білетаў*, – паведаміў міністр спорту і турызму **Сяргей Кавальчук**. – *З іх 12,7 тысячы прадалі замежным турыстам. І былі запрошаны рознымі грамадскімі арганізацыямі яшчэ каля 7 тысяч замежных прадстаўнікоў для ўдзелу ў спаборніцтвах.*

*Акрамя таго, аператары арганізавалі туры ў Мінск яшчэ для 15 тысяч замежных гасцей. І гэта мы не бяром гасцей з блізкага замежжа – Расіі, Украіны, Казахстана. Былі таксама турысты з Кітая».*

Такім чынам, паводле інфармацыі Міністэрства спорту, на Еўрапейскія гульні прыехалі 35 тысяч турыстаў. І гэта без уліку тых людзей, якія прыязджалі ў краіну самі. Раней Дзяржаўны памежны камітэт агучваў лічбы, якія былі меншыя ў разы.

*«Не магу сказаць, якім чынам вяліся падлікі, але тое, што замежныя госці прыехалі ў Беларусь, гэта ўжо добра для развіцця нашага турызму*, – кажа эксперт у вобласці турызму **Лілія Кобзік**. – *Мы прызвычаіліся, што часцей да нас расіяне прыязджаюць, але ў апошнія гады тэндэнцыя змяняецца. Кампаніі, якія спецыялізуюцца на прыёме замежных турыстаў, адзначаюць, што Беларусь сталі больш наведваць турысты з еўрапейскіх краін – Германіі, Францыі… Яны адкрываюць для сябе новую краіну і застаюцца задаволенымі. Нягледзячы на некаторыя ўнутраныя праблемы, месцамі Беларусь выглядае даволі рэспектабельна».*

Паводле слоў эксперта, Мінск – гэта не Прага і не Парыж, дзе для турыстаў сапраўдны рай, але і ў беларускай сталіцы ёсць што паглядзець.

*«Кожны горад адметны па-свойму, таму Мінск таксама многім падабаецца*, – дадае Лілія Кобзік. – *І госці, якія пабачылі яго падчас Еўрапейскіх гульняў, думаю, не былі расчараваны. Таму наш турызм выйграў. І, паводле маёй інфармацыі, зараз пайшлі заказы на спартыўны і дзелавы турызм у беларускую сталіцу».*

На думку маёй суразмоўцы, Еўрапейскія гульні праводзіліся не для таго, каб на іх нешта зарабіць альбо хаця б вярнуць выдаткі.

*«Найперш гульні былі патрэбны для паляпшэння іміджу краіны*, – адзначае эксперт. – *І гэта, безумоўна, пайшло ў плюс».*

**Віктар ШПАК.**




БУДЬ ЗДОРОВ!

# В каком возрасте детям начинать заниматься плаванием?

*Советы дает именитая белорусская пловчиха Александра Герасименя.*



Трехкратный призер Олимпийских игр стала мамой в прошлом сентябре. Дочке еще нет года, но Александра уже сейчас приобщает ее к плаванию и дает рекомендации другим родителям.

*«Вода – самая естественная для новорожденного малыша среда*, – советует **Александра Герасименя** на своей странице в социальных сетях. – *До 3–4 месяцев у малышей сохраняется рефлекс задержки дыхания при попадании воды, поэтому лучше долго не тянуть с водными процедурами. Как только пупочная ранка зажила – сразу в ванну!*

*Плюсы раннего купания очевидны – укрепление иммунитета, закаливание, снятие тонуса, корректировка неврологических процессов, укрепление мышц, более быстрое освоение других навыков (детки раньше начинают ползать и сидеть). Конечно, грудной ребенок не научится еще полноценно плавать, но хотя бы будет понятно, нравится ли ему вода, и он будет привыкать к ней».*

Пловчиха отмечает, что начинать заниматься обучением ребенка плаванию лучше в 2–3 года.

*«Можно сходить на специальные занятия, а можно просто проводить время вместе и с пользой*, – говорит Александра. – *Здесь главное не столько научить ребенка плавать, сколько уверенно чувствовать себя в воде и не бояться. Очень важно проводить обучение в игровой форме, чтобы малышу нравилось и не возникло негативной ассоциации, связанной с водой. Не нужно заставлять, кричать, требовать. Это игра, и она должна быть в радость. Пускай прыгает, брызгается, ныряет.*

*Важно в этот период не использовать вспомогательные средства (круг, нарукавники, жилеты), кроме досточки, потому что они формируют неправильные навыки и мешают держаться на воде самостоятельно.*

*А вот обучение плаванию в группах начинают с 5–6 лет, в этом возрасте дети становятся более координированными, внимательными и способными понять, чего от них хочет тренер. В этом возрасте необходимо поставить правильную технику».*

По словам спортсменки, плюсов от плавания много: укрепление организма, закаливание, ребенок меньше подвержен сезонным простудам. Развивается сердечно-сосудистая и нервная системы, улучшается работа дыхательной и кровеносной систем.

Есть ли противопоказания для плавания?

*«Нельзя посещать бассейн при кожных заболеваниях (дерматит, экзема) и инфекциях (чесотка), травмах позвоночника и врожденном пороке сердца, некоторых сердечных заболеваниях и вирусных инфекциях, эпилепсии и судорожном синдроме, некоторых нарушениях опорно-двигательного аппарата, аллергии, астме, заболеваниях дыхательных путей*, – указывает Александра Герасименя. – *Но вот пример из личного опыта. Много лет назад мне поставили диагноз «периоральный дерматит», назначили гормональные препараты и запретили умываться водой. Но каждый день на протяжении 20 лет я плаваю в бассейне, и до сих пор кожа не отсохла, а волосы не выпали.*

*Моей дочке поставили диагноз «атопический дерматит» со всеми вытекающими последствиями. Но сейчас мы ходим в общественный бассейн, и ухудшений в ее состоянии я не вижу».*

Пловчиха добавляет: во всем должна соблюдаться грань разумного.

*«Глупо, конечно, приходить плавать с температурой или обострением кожных или сезонных заболеваний, но вполне возможно не отказывать себе в удовольствии поплавать, занимаясь под руководством грамотного специалиста с разрешения врача*, – говорит Александра. – *Хотя в любом случае решение принимать только вам…»*

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

ВІНШУЕМ!

# «Ілля мне падарыў ружы і ювелірнае ўпрыгажэнне…»

*Чэмпіёнка свету ў бегу на 800 метраў Марына Арзамасава адзначыла з мужам алавянае вяселле.*

– 10 ліпеня споўнілася 10 гадоў з таго дня, як мы ажаніліся з Іллём, – распавяла Марына «Народнай Волі». – Усё прайшло вельмі сціпла, у сямейным коле, бо ўсе працуюць, і дадому мы вяртаемся даволі позна.

Хаця, шчыра кажучы, дзесяцігоддзе сумеснага жыцця мы з мужам адзначылі крыху раней у Рызе. Я ехала са спаборніцтваў, а Ілля мяне сустрэў. Пагулялі па старым горадзе, з'ездзілі на мора ў Юрмалу.

**– Калі не сакрэт, што муж падарыў да гэтай даты?**

– Ювелірнае ўпрыгажэнне і ружы. Дарэчы, алавянае вяселле называюць яшчэ ружовым, таму падарунак быў таксама аформлены ў гэтыя колеры.

**– Наколькі вядома, Ілля быў вашым спарынг-партнёрам на трэніроўках…**

– Так, ён жа таксама прафесійна займаўся спортам, бегаў на 800 метраў. Але зараз ад гэтага адышоў, сканцэнтраваўся толькі на сваёй асноўнай працы. Хаця яго сяброўства са спортам працягваецца. Муж любіць бегаць марафоны, зараз ходзіць на трэніроўкі і рыхтуецца да спаборніцтваў па трыятлоне.

**– Ён па-ранейшаму працуе на «Мінск-Арэне»?**

– Так, вядучым спецыялістам у сферы гандлю. Ілля кажа, што праца падабаецца, ёсць перспектывы для росту.

**– А дзяцей хто даглядае?**

– Старэйшай дачцэ Сашы ўжо 9 гадоў, малодшай Насці толькі 10 месяцаў, але вельмі моцна бацькі Іллі дапамагаюць. Яны ўнучак даглядаюць, калі нас няма дома, а гэта не рэдкасць. І муж позна дадому вяртаецца, і ў мяне старты пачаліся.

**– А чаму вы так рана выйшлі з дэкрэта?**

– Рана пачаць трэніравацца пасля нараджэння дзіцяці – гэта нармальная практыка для спартсменаў. Усё роўна ж трэба вяртацца ў спартыўную форму, хочацца цела прывесці ў норму. І мы з трэнерам зусім не фарсіравалі падзеі, адаптацыя праходзіла ў спакойным рэжыме. Я думала, што да былой формы буду вяртацца доўга і з пакутамі, але арганізм хутка перабудаваўся. Таму які сэнс было адкладваць вяртанне ў спорт? Натуральна, дзецям патрэбны мамін клопат, таму адразу пасля трэніровак альбо стартаў бягу дадому да сваіх дзетак.

**– Колькі зараз трэніруецеся?**

– Дзве трэніроўкі ў дзень і да таго ж апошні месяц працую без выхадных. Адзіны выхадны быў, калі ляцела на спаборніцтвы.

**– Старэйшая дачка спортам пакуль не займаецца?**

– Ужо два гады ходзіць у басейн. Я лічу, што плаванне – гэта добра і для фізічнай формы, і для здароўя. Але, можа быць, ужо ў наступным годзе запішам яе ў лёгкаатлетычную секцыю. Зараз пакуль гэта праблематычна зрабіць, бо жывём за горадам і дачку складана будзе вазіць на трэніроўкі.

**– Ёсць у Сашы здольнасці да лёгкай атлетыкі?**

– Фактура добрая. Высокая, хударлявая – тое, што трэба, каб займацца «каралевай спорту». Мяркую, калі трэнеры яе пратэсціруюць, то самі скажуць, дзе яна зможа сябе праявіць. Пабачым, можа, і маму калі-небудзь абгоніць…

**Алесь СІВЫ.**



